PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 46 (2166) Год XLII Беласток 16 лістапада 1997 г. Цана 1 зл.

# Адзін у полі — не воін

**З паслом Сейма Рэчы Паспалітай, старшынёй Беларускага грамадска-культурнага таварыства Янам СЫЧЭЎСКІМ гутарыць Ада ЧАЧУГА.**

*— Спадар пасол, Вы ўпершыню будзеце працаваць у Сейме. Як Вы бачыце сваю функцыю пасла?*

— Буду рэалізаваць ідэю сваёй выбарчай актыўнасці, менавіта, што трэба шукаць моцныя клубы, з нечужой для беларускага і праваслаўнага насельніцтва палітычнай арыентацыяй.

***— Выбары ў Сейм Рэчы Паспалітай паказалі, што кааліцыя з левымі дэмакратамі дала вынікі. Прынамсі адзін прадстаўнік беларусаў, пражываючых у Польшчы, апынуўся ў Сейме.***

— Гэта было рашэнне Прэзідыума ГП БГКТ (наконт кааліцыі і маёй кандыдатуры). Чаму такое рашэнне было прынята? Левая арыентацыя нам не чужая (і не таму — як прабуюць тлумачыць гэты факт некаторыя нашы апаненты, — што Сталін быў бандытам, што былі Курапаты, Меднае, і яшчэ тое-сёе). Наш беларуска-праваслаўны электарат бліжэйшы левым поглядам. Дастаткова глянуць хаця б на тое, як яны галасавалі за Цімашэвіча — лідэра левых дэмакратаў.

І ў парламенцкіх дзеяннях нам патрэбны палітычны блок, на які мы маглі б абапірацца. Адзін у полі — не воін. Мая актыўнасць у парламенце не можа быць аўтаномнай адзінкай.

*— Але ўсё ж такі Вы — адзіны прадстаўнік польскіх беларусаў у Сейме!*

— Дык я ж і кажу, усе справы беларускай меншасці і праваслаўных, за якія я б хацеў змагацца, буду вырашаць разам з моцным клубам, якому прыхільны наш электарат.

*— Якія гэта справы?*

— Перш за ўсё я буду ваяваць за закон аб нацыянальных меншасцях, праект якога ўжо ёсць. За быт, гаспадарча-эканамічныя ўмовы жыцця беларускай вёскі ў Польшчы. Вядома, што наогул сітуацыя вёскі ў Польшчы сёння дрэнная, але беларускай — асабліва. Буду змагацца за развіццё беларускай культуры, асветы і навукі ў Польшчы. А перш за ўсё, за сапраўдную дэмакратыю, без якой беларус у Беластоку, Бельску, Гайнаўцы будзе саромецца прызнацца да сваёй нацыі. Датычыцца гэта таксама і рэлігійных меншасцей.

Як змагу, так буду я спрыяць нармалізацыі адносін з Рэспублікай Беларусь, каб не было ніякага авантурніцтва. Для нас гэта вельмі важна, бо можам разлічваць на дапамогу Беларусі ў нашай дзейнасці, якая канцэнтруецца вакол беларускага грамадства




ў Польшчы (музей, касцюмы, інструменты, студэнты — 30 асоб штогод прымаюць вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі).

***— Напэўна, Вы будзеце працаваць у Камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей?***

— Так, мяркую працаваць у гэтай камісіі ды яшчэ ў Камісіі культуры і сродкаў масавай інфармацыі.

***— Дрыжы, „Ніва"! У нашых жа ўзаемаадносінах бывала па-рознаму.***

— Трэба пачынаць нармалізаваць сітуацыю. Усялякая крытыка павінна быць канструктыўнай і абапірацца на факты. А ў „Ніве" часта выкарыстоўваецца адзіная крыніца інфармацыі. Журналіст павінен шукаць праўду, а, чытаючы некаторыя артыкулы, здаецца, што ён ужо гэту праўду ведаў загадзя, дастаткова ўставіць у яго схему імёны і прозвішчы.

Калі будзе імкненне да праўды, талерантнасці, калі „Ніва" будзе сапраўдным прадстаўніком усіх беларусаў, без падзелу на „слушных" і „няслушных", то, лічу, ніякіх перашкод у нашым супрацоўніцтве не будзе.

***— 30 лістапада адбудзецца XIII з'езд Беларускага таварыства. Як Вы ацэньваеце сваю мінулую кадэнцыю? Што ўдалося зрабіць?***

— У абставінах новай рэчаіснасці, калі на культуру няма грошай (на інструктараў, штатных працаўнікоў, на арэнду памяшканняў, на інструменты, касцюмы), удалося захаваць і нават развіваць народную культуру.

Мы ўтрымалі добрыя адносіны з уладамі і культурнымі ўстановамі Рэспублікі Беларусь: з Міністэрствам адукацыі РБ, Міністэрствам культуры, з Камітэтам па справах друку, з Дзяржаўным камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей, з таварыствам „Радзіма".

Вельмі важна, што мы ўтрымалі і развівалі добрыя суадносіны з Праваслаўнай царквою, што выбаявалі дзяржаўныя фінансавыя сродкі на далейшую будову Музея і планы фінансавання яго дзейнасці ў будучыні.

Ну, а Фестываль беларускай песні... Сёння ўжо ніхто не можа папракнуць нас, што спяваюць адно бабулі. Усё больш моладзі бярэ ў ім удзел. Гэта датычыцца, зрэшты, і Свята беларускай культуры, і Купалля, і фэстынаў, якія сталі пастаянным элементам структуры беларускай культуры Беласточчыны.

*— А чаго не ўдалося зрабіць?*

— Не ўдалося ўстрымаць працэс асіміляцыі беларусаў у вялікіх цэнтрах. Не змаглі мы таксама ўвесці больш беларускай мовы ў самім Беластоку і пашырыць яе навучанне на Беласточчыне.

***— Ці Вы рыхтуецеся надалей узначальваць Беларускае таварыства?***

— Усё вырашыць з'езд. Праўду кажучы, лягчэй было б заняцца толькі парламенцкай працай.

***— З надзеяй на ўзаемазразуменне і добрае супрацоўніцтва, дзякую за размову.***

# У нумары

# Мы прачыталі

*Polska scena polityczna przypomina czasem koszmarny sen.*

*Tygodnik Solidarność, nr 41*

* * *

*W 1998 r. posłowie i senatorowie dostaną 6 573 zł miesięcznie podstawowego uposażenia. Ale to nie wszystko. Każdy parlamentarzysta dostaje diety w wysokości 30 proc. uposażenia. W 1998 r. będzie to 1 971 zł. Ta kwota jest nieopodatkowana. Są też dodatki za funkcje: dla przewodniczących komisji — 20 proc. uposażenia, dla wiceprzewodniczących — 15 proc., 10 proc. dla przewodniczących podkomisji. Do tego każdy poseł dostaje fundusz na swoje biuro poselskie. W 1997 r. było to 4 845 zł miesięcznie. Posłowie i senatorowie korzystają bezpłatnie z hotelu sejmowego. Nie płacą też za przejazd publicznymi środkami komunikacji. Obecnie poseł otrzymuje średnio 8,5 tys. zł. W 1998 r. dostanie już ok. 10 tys. zł.*

*Gazeta Wyborcza, nr 252*

Не здзіўляе тады, што столькі кандыдатаў перад кожнымі выбарамі рвецца прадстаўляць народ. А і падаткі не будуць паменшвацца.

* * *

*Panną na wydaniu w tym sezonie politycznym jest Unia Wolności. Panna to już niemłoda, charakter ma okropny, ale jest posażna, ustosunkowana i bywa w świecie. Przy niej się nie zginie. Nic zatem dziwnego, że krecą się koło niej chłopcy z AWS.*

*Tygodnik Solidarność, nr 41*

* * *

*Знайдзіце ў Мінску вуліцу, плошчу, завод, ці хаця б школу або бібліятэку імя братоў Луцкевічаў. Няма. Затое наша сталіца проста засмечана такімі прозвішчамі як Мяснікові, Кнорын, Ландэр, Берсан, Куйбышаў, Калінін, які павінен несці адказнасць за сталінскія злачынствы.*

*Голас Радзімы, н-р 43*

Нічога дзіўнага, што ўшаноўваюцца такія асобені. Яны таксама зрабілі ўсё, каб знішчыць беларускую дзяржаўнасць і народ.

* * *

*Przepis na film komercyjny nie jest zbyt skomplikowany. Należy wziąć Lindę, Pazurę i Figurę oraz podręczny zestaw rekwizytów, przede wszystkim dużo broni palnej, długiej i krótkiej. W tym sezonie w powszechnym użyciu jest również broń sieczna: noże, siekiery, a nawet sekatory. Przyrządy te służą przede wszystkim do obcinania przeciwnikowi palców. W ostatnim sezonie, w sumie obcięte zostały cztery palce; jednego zabrakło, a byłaby cała dłoń. Jeżeli moda się upowszechni, już za rok może zabraknąć palców u rąk i nóg. Do zrobienia filmu sensacyjnego potrzeba jeszcze tylko fury dolarów, oficjalnej waluty polskiej kinematografii. W filmie „Pułapka" bohater, chcąc powiedzieć komplement swej sympatii, mówi: „Jesteś piękna jak milion dolarów".*

*Polityka, nr 43*

* * *

*Jerzy Urban na dokarmianie hien w warszawskim ZOO przeznacza miesięcznie 2 000 zł. Jego zdaniem to obowiązek alimentacyjny należny członkom rodziny. Jerzy Urban uważa, że kiedy okrzyknięto go dziennikarską hieną, ciąży na nim odpowiedzialność moralna za hieny. W każdym razie wyszło to hienom za zdrowie: pod opieką Urbana doczekały się potomstwa.*

*Gazeta Wyborcza, nr 251*

* * *

*А мы ўсё будуем сацыялізм,* — піша *Літаратура і мастацтва, н-р 39*

Жадаем „паводзін" і спачуваем.

* * *

*Шаснаццацігадовы Вадзім Лабковіч вучань 95-й Менскай сярэдняй школы, старэйшы сын Ядзвігі Лабковіч, другі месяц знаходзіцца за кратамі. У камеры жодзінскай турмы яго трымаюць толькі за тое, што ён беларус і мае смеласць любіць сваю Бацькаўшчыну. Любіць яе сёння як вядома — справа палітычная, апазіцыйная, крымінальная.*

*Наша ніва, н-р 31*

Над Беларуссю зноў павісла хмара таталітарызму. Моладзь замест на танцах штораз часцей праводзіць час за кратамі. За што ўсё гэта?

* * *

*Дзе ў Слоніме купіць прэзерватывы. Карэспандэнт „Газеты Слонімскай" абышоў і абзваніў амаль усе аптэкі горада, з мэтай купіць прэзерватыў. Попыт на прэзерватывы ў апошні час вырас. Па словах фармацэўтаў іх запасу хапае звычайна на 2 дні. Былі ў аптэцы французскія па 10 тысяч рублёў за адзін, але іх імгненна раскупілі. Можна купіць на рынку. Тут ёсць, і французскія, і італьянскія, і нямецкія, і амерыканскія коштам да 30 тысяч за адзін (1 долар). Але ўсе яны не маюць гарантыі на выкарыстанне.*

*Газета слонімская, н-р 18*

Нашы продкі на працягу доўгіх стагоддзяў не ведалі ніякіх прэзерватываў і таму, нягледзячы на ўсялякія гістарычныя катаклізмы, нацыя заўсёды адраджалася. Кіньце тады, хлопцы, шукаць тыя французскія прадукты і падумайце пра сваю гістарычную місію.

# З мінулага тыдня

**Папа Ян Павел II** заявіў, што прычынай варожасці ў адносінах да яўрэяў была, між іншым, фальшывая інтэрпрэтацыя хрысціянамі Евангелля. Гэтыя словы папа выказаў перад удзельнікамі міжнароднага багаслоўскага семінара, прысвечанага гістарычным караням антыюдаізму, які праходзіў у Ватыкане. „Ісус быў яўрэем і ў мінулым гэту праўду часта забывалі. Антысемітызм не мае ніякага апраўдання і павінен быць безумоўна асуджаны", — падкрэсліў папа. Удзельнікі семінара ў камюніке напісалі, што хрысціяне, якія паддаюцца антыюдаізму абражаюць Бога і Касцёл.

**Лідэры Уніі працы** накіравалі парламентарыям адкрыты ліст з заклікам зменшыць пасольскія заробкі. У будучым годзе прафесійны парламентарый будзе атрымоўваць па 8-10 тыс. зл. у месяц. Прадстаўнікі паасобных парламенцкіх клубаў на заяву УП адрэагавалі даволі стрымана. Лідэр СЛД **Юзэф Алексы** лічыць, што ліст — вынік імкнення Уніі працы публічна паказацца пасля паражэння на нядаўніх парламенцкіх выбарах.

**Каралеўства Беларусі — посткаланіяльная культура** — гэта загаловак выставы, якая адкрылася ў Аўдыторыі Максімум Варшаўскага універсітэта. На выстаўцы экспануюцца працы 15 незалежных мастакоў — жывапісцаў і фатографаў — з Менска, Гомеля, Гродна і Вільні. Аўтары работ называюць сваё мастацтва нанканфармісцкім, пошукавым і лічаць, што каланіяльная культура адыходзіць у нябыт, а канфармісцкае мастацтва савецкага перыяду знікае. Мабыць, выстава будзе прэзентавацца ў студэнцкім асяроддзі Познані і Гданьска.

**Прафсаюз „Салідарнасць"** пераняў будынак прафсаюзаў па вуліцы Складоўскай 3 у Беластоку. Яшчэ перад выбарамі міністр працы **Мацей Маніцкі** выдаў распараджэнне аб падзеле прафсаюзнай маёмасці паміж ОПЗЗ і „Салідарнасць". Згодна дакументу, беластоцкі Дом прафсаюзаў дастаўся „Салідарнасці".

**У „Фастах"** тры прафсаюзныя арганізацыі правялі рэферэндум наконт забастоўкі ў абароне працоўных месцаў. Кіраўніцтва Беластоцкага баваўнянага камбіната „Фасты" намерваецца да канца гэтага года звольніць з працы 630 чалавек (з агульнага ліку 2000 рабочых).

**Фірма „Унібуд"** з Бельска-Падляшскага здала ў карыстанне жылы дом для пацярпеўшых ад паводкі ў мясцовасці Барова Жашоўскага ваяводства. Аднакватэрны дом з поўным абсталяваннем варты 90 тыс. зл. з'яўляецца дарам гміны і горада Бельска-Падляшскага ды згаданай фірмы.

**У Белавежскай пушчы** ў наступным годзе не будуць праводзіцца буйныя лесанарыхтоўкі. Грамадска-навуковая рада пушчы згадзілася на вываз толькі 114 тысяч кубаметраў драўніны, што складае 40% ад гадавога прыросту драўніннай масы. Леснікі будуць высякаць дрэвы толькі падчас лесаўпарадкавання пушчанскага комплексу.

**На пагранічным пераходзе ў Кукурыках** мытнікі выявілі фіктыўны транзіт больш дзесяці аўтафураў кітайскага абутку, які цераз Польшчу меў трапіць у Беларусь. Паводле польскіх мытных дакументаў, транспарт з абуткам выехаў з Польшчы, але ў беларускіх мытнікаў няма дакументацыі, якая сведчыла б, што гэты груз сапраўды быў увезены на тэрыторыю Беларусі. Усё паказвае на тое, што фірма, якая імпартуе азіяцкі абутак, сфальшавала дакументы, каб не плаціць пошліны і падаткаў. У выніку казна страціла сотні тысяч злотых.


## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Іван Рудэчка** — самародны даследчык мінулага.
- **Жыў у Белавежы вядзьмар** — піша Пётр Байко.
- **Паляўнічыя і зайцы або назойлівая рэклама.**


# Весткі з Беларусі

**Жалобны марш**

З нагоды Дзядоў апазіцыя сарганізавала ў Менску жалобны марш для ўшанавання памяці ахвяр КДБ. Урачыстасці пачаліся перад сядзібай Камітэта дзяржаўнай бяспекі, дзе апазіцыянеры ўстанавілі каплічку — сімвал перамогі веры над таталітарызмам. Пасля кароткага набажэнства каля трох тысяч дэманстрантаў прайшло з плошчы Якуба Коласа ў Курапаты, дзе пакояцца астанкі ста тысяч ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

**Шурпаты закон**

Прэзідэнт Беларусі лічыць, што праект змяненняў і дапаўненняў у закон аб друку, якія былі нядаўна прыняты ніжняй палатай парламента, павінен быць адкарэкціраваны. Аб гэтым Аляксандр Лукашэнка заявіў на сустрэчы з удзельнікамі міжнароднага семінара журналістаў, які праходзіў у Менску. Прэзідэнт паведаміў, што ўважліва вывучыў прапанаваныя папраўкі і бачыць дзве, мякка кажучы, шурпатасці. У першым выпадку размова ідзе аб тым, што рэгіструючы орган — Дзяржаўны камітэт па друку — можа мець права накладваць нейкія санкцыі на газеты. Другі момант датычыць забароны на ўвоз з-за мяжы сродкаў масавай інфармацыі, якія шкодзяць эканамічным, палітычным і іншым інтарэсам дзяржавы. Прэзідэнт лічыць нармальным, што ўстанаўліваецца пэўны кантроль дзяржавы на мас-медыя. Кантроль — гэта не забарона, лічыць Аляксандр Лукашэнка.

**Дапрацоўка законапраекта**

Сенатарам не ўдалося на сумесным пасяджэнні камісій Савета Рэспублікі і Нацыянальнага Сходу прыняць рашэнне наконт законапраекта аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у закон аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі. На думку дэпутатаў, законапраект перададзены ў верхнюю палату без дастатковых абгрунтаванняў кожнага прапанаванага ў закон змянення і дапаўнення. А гэта абгрунтаванне і тлумачэнне тым больш павінна быць, таму што дакумент атрымаў неадназначную, часам рэзка адмоўную ацэнку журналісцкіх колаў. Дарэчы, высветлілася, што ён належным чынам не абмяркоўваўся ў калектывах СМІ і журналісцкіх арганізацыях краіны. Было вырашана прапанаваць трэцяй сесіі Савета Рэспублікі вярнуць гэты дакумент на дапрацоўку ў ніжнюю палату парламента.

**Платныя тэлесігналы**

Усе вяшчальныя на тэрыторыі Беларусі расейскія тэлекампаніі з 1 студзеня 1998 г. будуць аплачваць Мінску паслугі за перадачу тэлесігналаў, — заявіў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы з удзельнікамі міжнароднага семінара „Правы і адказнасць журналістаў у краінах СНД і Балтыі". Кіраўнік дзяржавы асоба падкрэсліў, што за выкананнем гэтага правіла будзе ўстанаўлівацца самы жорсткі кантроль. Ён таксама паведаміў аб намеры стварыць другі канал беларускага дзяржаўнага тэлебачання БТ-2. Дзеля гэтага створана ўжо спецыяльная камісія.

**Купала і Вільня**

У Дзяржаўным літаратурным музеі імя Янкі Купалы адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя „Янка Купала — публіцыст". Да гэтай падзеі была прымеркавана выстава „У сугуччы культур. Віленскія постаці беларусаў". Імпрэза прысвечана была 90-годдзю прыезду Янкі Купалы ў Вільню — тагачасны цэнтр беларускай культуры.

**Краснадарскае прадстаўніцтва**

Міністр знешнеэканамічных сувязей Міхаіл Марыніч уручыў дазвол на адкрыццё ў Беларусі прадстаўніцтва Краснадарскага краю паўнамоцнаму прадстаўніку адміністрацыі Юрыю Ганчарову. Прадстаўніцтва адкрыта ў мэтах эфектыўнага садзеяння ў рэалізацыі пагадненняў аб супрацоўніцтве паміж Краснадарам і беларускімі арганізацыямі і ўстановамі.

**Перуанкі ў Брэсце**

Няўдачнай аказалася спроба трох грамадзянак Перу нелегальна перасячы беларуска-польскую граніцу. Пры афармленні поезда Масква—Берлін у Брэсце высветлілася, што іх пашпарты падроблены. Цікава, што ў ліпавых дакументах яны значыліся як грамадзянкі Эквадора. Пагранічнікі з перуанак спагналі штраф і адправілі ў Маскву, адкуль яны напярэдадні прыехалі ў Брэст.

# Сабака і вакцынацыя

**У кастрычніку г.г. у Арлянскай гміне праводзілася акцыя вакцынацыі сабак супраць шаленства. Калі ў адной вёсцы запытаў я сустрэтага жыхара пра колькасць сабак, той, смеючыся, адказаў мне: „У нас... колькі людзей, столькі і сабак, ну, можа, крыху менш".**

Расказвае **Уладзімір Тамчук** — 64-гадовы солтыс вёскі Маскоўцы:

— Абавязкі солтыса выконваю ўжо каля дваццаці гадоў. Кожны солтыс абавязаны дапамагаць правесці акцыю прышчэплівання сабак. Апошнім часам людзі трымаюць больш сабак, відаць, для лепшай бяспечнасці. У Маскоўцах і Круглым жыве 91 чалавек. Маладых гаспадароў амаль і няма, а пераважную большасць сялян складаюць пенсіянеры. Зямлю сваю параспісвалі яны на сваіх гарадскіх дзяцей або ўнукаў і бывае так, што на адну хату ідзе цяпер не адна, а пяць падаткавых квітанцый. Пажылым земляробам дапамагаюць іхнія гараджане. У вёсцы ўжо больш за 30% дамоў пустуюць. Я ўжо пенсіянер і ўсю сваю маёмасць таксамаparaspisваў на жонку, дачку і сына, так што цяпер „парабкам" у іх працую.

Так вось жывём і дажываем. Яшчэ міне некалькі гадоў і бацюшка ўсіх нас выведзе адсюль, а сяло застанецца пустое.

Расказвае **Юзэф Бжана** — ветэрынарны лекар з Орлі:

— Вакцынацыю сабак праводзім кожны год у кастрычніку-лістападзе па загадзе ваяводскага лекара ветэрынарыі. Пасля ўзгадненняў з Упраўай гміны і солтысам заязджаем у вёску і прышчэпліваем сабак супраць шаленства. Некаторыя солтысы добра падрыхтоўваюць вёску да гэтай акцыі, напрыклад Мікалай Грыгарук з Дыдулёў. Іншыя ў гэты час выходзяць у поле, а потым тлумачацца, што аднасяльчане лаюць іх за тое, што заносяць іхніх сабак у спіскі для вакцынацыі. У Арлянскай гміне прышчэпленых было каля шасціста сабак. Аб ліку імунізаваных сабак паведамляем раённага лекара ветэрынарыі. Гэта вельмі важная справа, бо шаленствам хварэе пераважна дзікая жывёла — лісы, яноты, а таксама бяздомныя сабакі, а гэтых апошніх у гміне, мяркуем, бадзяецца каля 200 штук. У апошніх гадах былі ў нас выпадкі захворванняў быдла на шаленства, а 15 штук здохла ад укусаў шалёных лісоў. Два тыдні пасля вакцынацыі арганізм сабакі становіцца неўспрымальным да заражэння шаленствам. Кошт прышчэпкі падчас арганізаванай акцыі складае 8 зл., а вакцынацыя ў індывідуальным парадку каштуе 12 зл. Тыя гаспадары, якія не прышчэпліваюць сабак, спачатку атрымоўваюць пісьмовае папярэджанне, але калі і гэта не памагае, тады могуць яны быць прыцягнены да адміністрацыйнай адказнасці. Прапануем таксама імунізаваць катоў. Новы закон аб ахове жывёл вельмі строга ставіцца да пытання вакцынацыі сабак.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*


*Солтыс Уладзімір Тамчук з жонкай Марыяй. Пры машыне — ветэрынар Юзэф Бжана.*

# Купалля з Белавежы не выдвараць

Сёлетні выпуск фальклорнага мерапрыемства „Ноч Купалы", арганізаванага ў Белавежы ўжо шмат гадоў, шматлікія яго прыхільнікі палічылі адным з найгорш падрыхтаваных. Прыгадаю, што пачалося яно, з-за аварыі электраабсталявання, з гадзінным спазненнем. Дрэнна таксама працавалі гукаўзмацняльнікі — хрыпелі, трашчалі. Многія гледачы мелі прэтэнзіі і да невысокага мастацкага ўзроўню некаторых выканаўцаў. Іншым не спадабалася і тое, што адзін з суарганізатараў мерапрыемства выкарыстаў яго для правядзення выбарчай кампаніі. А ўсё гэта адбывалася ў суправаджэнні назойлівай стральбы, якую наладзілі недарослі, якія быццам бы толькі і чакалі адпаведнай нагоды, каб скарыстаць накопленыя заранёў піратэхнічныя матэрыялы.

Дрэнную ацэнку гэтаму мерапрыемству дала таксама на адным са сваіх пасяджэнняў Рада гміны Белавежа. У паветры вісела пагроза, што апошняя „Ноч Купалы" сапраўды будзе апошняй у гісторыі мясцовасці. Тым больш, што стала ўжо вядомым аб здачы ўладамі ПКП прывакзальнага пляца, на якім традыцыйна праходзілі чарговыя купальскія святкаванні, у арэнду Канвенту польска-беларускага пагаднення. Усё ж такі, „Купалле" будзе працягвацца. І то ў тым самым, бадай, месцы. Так менавіта вырашылі нарэшце белавежскія радныя на чарговай сесіі, якая адбылася напрыканцы верасня г.г. Яны таксама прынялі пастанову аб забеспячэнні для гэтай мэты адпаведных сродкаў у бюджэце гміны.

Мерапрыемства, пакуль што, будзе працягвацца ў ранейшай форме. Радныя не згадзіліся прыняць праект гэтага мерапрыемства, апрацаваны Белавежскім асяродкам культуры. Паясняю ў гэтым месцы, што згаданы праект прадугледжваў перамяненне мерапрыемства з беларускага ў шматнацыянальнае, з уключэннем украінцаў, літоўцаў і іншых народаў, якія жывуць на Беласточчыне.

На маю думку, добра, шо „Ноч Купалы" не знікне з культурнай карты Белавежы. Нягледзячы на ўсе хібы гэтага мерапрыемства, яно моцна ўпісалася ў жыццё мясцовасці. Жыхары Белавежы сапраўды чакаюць гэтага адзінага, незвычайнага вечара ў годзе. Ды не толькі адны белавежцы. На фальклорнае свята ў Белавежу прыязджаюць многія жыхары навакольных мясцовасцей. Пра гэты летні атракцыён добра ведаюць і турысты, якія таксама ахвотна яго аглядаюць, асабліва замежнікі. Напэўна добра было б нешта новае ўвесці ў праграму „Купалля", а прынамсі трэба прыкласці ўсе намаганні, каб яна спраўней праходзіла. Неабходна паклапаціцца і аб павышэнні выканаўчага ўзроўню. „Ноч Купалы" ў Белавежы сапраўды стала ўжо важным святам беларускай культуры ў Польшчы.

**Пётр Байко**

# Аб'ява

16 лістапада 1997 г. у Сакольскім доме культуры ў Саколцы (вул. Гродзенская, 1) адбудзецца канферэнцыя, арганізаваная Беларускім гістарычным таварыствам і прысвечаная беларусам Сакольскай зямлі.

Арганізатары шчыра запрашаюць прыняць удзел усіх зацікаўленых тэмай. Пачатак канферэнцыі — гадз. $10^{00}$.

Словы шчырага спачування
**спадару Янку Якімюку**
з прычыны напаткаўшага
Яго гора — смерці БАЦЬКІ
— выказваюць
члены Прэзідыума
Грамадскага камітэта
пабудовы Беларускага музея
ў Гайнаўцы
і Праўленне Гайнаўскага
аддзела БГКТ.

Словы
глыбокага спачування
**спадару Янку Целушэцкаму**
з прычыны напаткаўшага
Яго гора — смерці БАЦЬКІ
— выказвае
рэдакцыйны
калектыў „Нівы".

# Перадз'ездаўскія прапановы

У артыкуле Аляксея Мароза „Вострая перадз'ездаўская дыскусія" („Ніва" № 44 ад 2 лістапада г.г.) закрануты былі толькі некаторыя пытанні, якія ставіліся ўдзельнікамі справаздачна-выбарчай канферэнцыі БГКТ у Гайнаўцы. Для больш поўнага адлюстравання канферэнцыі дасылаю вынікі працы Камісіі прапаноў, якія былі прыняты аднагалосна.

**Мікалай Бушко**

**Прапановы**
**„Раённай" справаздачна-выбарчай канферэнцыі БГКТ у Гайнаўцы ад 19 кастрычніка 1997 г.**

1. Давесці да:
— сустрэчы прадстаўнікоў беларускіх арганізацый у Польшчы,
— распрацоўкі праграмы дзеяння на карысць беларускага грамадства ў Польшчы.
2. Абавязаць новаабраныя ўлады БГКТ неадкладна распрацаваць аптымальны <u>калектыўны</u> спосаб набору сёлетніх і будучых выпускнікоў сярэдніх школ у вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь.
3. У першую чаргу накіроўваць на спецыялістычныя студыі ў РБ выходзячы з патрэб беларускага асяроддзя ў Польшчы і ствараць умовы для працаўладкавання выпускнікоў беларускіх ВНУ.
4. Неабходна захаваць актыўныя гмінныя аддзелы БГКТ і прадумаць магчымасць стварэння пасрэдных структур БГКТ, напраклад, павятовых.
5. Неадкладна правесці аналіз стану і патрэб мастацкага самадзейнага руху Гайнаўшчыны (пры ўдзеле самадзейнікаў) і распрацаваць спосаб іх задавальнення.
6. Правесці аналіз цяперашніх варункаў і стварыць умовы для распрацавання новых атракцыйных форм навучання беларускай мовы ў пачатковых школах і іншых установах.
7. Арганізаваць сустрэчу прафесіяналаў па справах культуры, асветы і іншых галін з мэтай распрацоўкі мадэлі дзейнасці Музея і цэнтра беларускай культуры ў Гайнаўцы.
8. У рамках супольнай праграмы ўсіх беларускіх арганізацый у Польшчы давесці да аптымальнага распаўсюджвання беларускіх спраў у сродках масавай інфармацыі.
9. Неадкладна стварыць магчымасць гдядзець перадачы Беларускага тэлебачання.
10. Пачаць дзеянні з мэтай захавання помнікаў матэрыяльнай культуры беларускага насельніцтва ў Польшчы.
11. Давесці да змены стылю кіравання Беларускім грамадска-культурным таварыствам як спосабу кансалідацыі і інтэграцыі беларускага асяроддзя ў Польшчы.
12. Наладзіць бліжэйшае супрацоўніцтва з Праваслаўнай царквой у Польшчы.

**Камісія прапаноў** *(Яўген Валкавыцкі — дырэктар Пачатковай школы ў Нараўцы; Васіль Сегень — настаўнік ПШ у Старым Корніне; Яўген Сачко — дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя; Мікалай Бушко — дырэктар Гайнаўскага дома культуры).*

# Беларусы і масоны

Неяк у 1908 ці то 1909 г. браты Георгі і Ільля Ромы, віленскія яўрэі, завялі гутарку з Іванам Луцкевічам аб канспіратыўнай арганізацыі, якая стваралася ў Расіі. Арганізацыя, гаварылі Ромы, ставіць як галоўную мэту звяржэнне самадзяржаўя і прытрымоўваецца прынцыпаў гуманітарнасці, свабоды і братства народаў. Аб'ядноўвае яна ўсе палітычныя элементы, гатовыя прыняць удзел у змаганні, пачынаючы з левых акцябрыстаў (партыя буйнай буржуазіі) да самых крайніх левых. Арганізацыя засакрэчаная не толькі перад уладамі, але і перад грамадствам, каб партыйныя разыходжанні між яе сябрамі не перашкаджалі сысціся дзеля агульнай працы прадстаўнікам партый, якія ніколі не згадзіліся б сесці публічна за адным сталом. У арганізацыю прымаюцца толькі асобы маральна беззаганныя і на высокім інтэлектуальным узроўні. Для беларусаў — падкрэслівалі Ромы — было б вельмі важным увайсці ў сувязь з гэтай арганізацыяй, бо яна можа сыграць у будучыні велізарную ролю.

Арганізацыяй, аб якой гаварылі браты Ромы, было масонскае брацтва. Масонская дзейнасць у Расіі была забаронена яшчэ Аляксандрам I у 1822 годзе, што спыніла працвітанне масонскіх ложаў амаль на стагоддзе. Яны пачалі адраджацца толькі пасля рэвалюцыі 1905 г., скарыстоўваючы адносную лібералізацыю царскага рэжыму. У 1906 і 1907 гг. у Пецярбургу і Маскве ўзніклі ложы прыналежныя да Вялікага Усходу і Вялікай Ложы Францыі. Асабліва многа масонаў было сярод „кадэтаў" (так называлі сяброў партыі канстытуцыйных дэмакратаў). Браты Ромы, вядомы хірург Георгі і яўрэйскі дзеяч і публіцыст Ілья, былі кадэтамі блізка звязанымі з лідэрам партыі Паўлам Мілюковым.

Ромы прапанавалі спярша Івану, а пасля таксама яго брату Антону Луцкевічам увайсці ў склад масонскага брацтва, і яны згадзіліся. Афіцыйна прынялі іх у масоны Мікалай Пархомаў, судовы дзеяч, які меў пад Вільняй маёнтак і часам у ім гасцяваў. Дарэчы, уся абраднасць у тадышнім расейскім масонстве звезена была да рытуалу прыняцця.

Масонская ложа мусіць мець не менш як сем сяброў, і не больш як чатырнаццаць. Калі сяброў чатырнаццаць, ложа мусіць падзяліцца на дзве. Пад канец 1910 г. Ромы і Луцкевічы сабралі патрэбную колькасць братоў, каб стварыць першую ложу ў Вільні. Называлася яна „Адзінства". У яе склад уваходзілі прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасцей былога Вялікага княства Літоўскага, падабраныя арганізатарамі з ліку мясцовай прагрэсіўнай інтэлігенцыі, якія і раней супрацоўнічалі на розных нівах грамадскай дзейнасці.

Ужо летам 1911 г. колькасць сяброў „Адзінства" дасягнула чатырнаццаці. Найвышэйшым саноўнікам ложы быў Георгі Ром (брат Venerable — Шаноўны). Яго намеснікам быў паляк, лекар і бібліятэкар Людвік Чаркоўскі (брат Дазорац). Астатнія гэта: Іван Луцкевіч (брат Orator — Прамоўца, ахоўнік абрадаў і статута), Ілья Ром (брат Скарбнік і Сакратар), Антон Луцкевіч і Іван Краскоўскі (школьны інспектар у гімназіі Н. А. Вінаградава, родам з Дубіч-Царкоўных), палякі: Міхал Ромер (юрыст і публіцыст, адначасова і літоўскі дзеяч), Вітальд Абрамовіч (юрыст, галоўны прадстаўнік г.зв. „краёўцаў"), Браніслаў Кжыжаноўскі (адвакат), Зыгмунт Нагродзкі (купец і грамадска-асветніцкі дзеяч), Ян Багушэўскі (лекар), літоўцы: Міхал Слежэвічус (юрыст, сакратар літоўскай фракцыі ў Думе), Міхал Біржышка (юрыст і публіцыст), яўрэй Майсей Брамсон (камерсант, у маладосці палітвязень і катаржнік) і расеец Іван Прозараў (інжынер архітэктар).

Ложа, якая выдзялілася з „Адзінства", назвалася „Літва". На яе чале стаяў М. Ромер (Шаноўны). З беларусаў у ложы пачаткова былі Луцкевіч (Прамоўца) і Іван Краскоўскі (пазнейшы Шаноўны). У 1912 г. па рэкамендацыі Луцкевічаў у гэтую ложу прыняты быў Вацлаў Ластоўскі, а ў невядомым часе яшчэ адзін беларус, Дамінік Сямашка (начальнік гарадской супрацьпажарнай аховы). Размежаванне між ложамі было даволі ўмоўнае і іх сябры пераходзілі з адной у другую.

У кастрычніку 1914 г. з „Літвы" выдзялілася чарговая ложа — „Беларусь". Нягледзячы на назву, гэтая ложа, як і ўсе, мела звышнацыянальны характар. Усё ж такі пералічым яе сяброў: беларусы А. Луцкевіч і І. Краскоўскі, літоўцы М. Біржышка, Пеліксас Бугайлішкіс і Андрыус Булота (два апошнія, як і першы — юрысты), палякі: Аляксандр Заштаўт (інжынер, адзін з заснавальнікаў Сацыял-дэмакратычнай партыі Літвы і Белай Русі) ды Казімер Астахевіч (банкаўскі служачы, у будучым суперінтэндэнт Евангельска-рэфармаванай царквы). Ложа „Беларусь" існавала толькі фармальна і збіралася разам з „Літвой". Фактычнае выдзяленне прадбачвалася толькі на восень 1915 г.

Апрача трох віленскіх ложаў па адной ложы існавалі яшчэ ў Мінску і Віцебску. Мэтай віленскіх братоў было заснаванне аўтаномнай краёвай арганізацыі на землях былога Вялікага княства Літоўскага, да чаго трэба было сямі ложаў. Перашкодзіў у тым выбух I сусветнай вайны і выкліканая ім дэзінтэграцыя асяроддзя віленскіх масонаў.

Хаця масонства намагалася аб'ядноўваць сваіх братоў на звышнацыянальнай аснове, міжнацыянальныя разыходжанні няспынна праяўляліся на ўсіх узроўнях арганізацыі.

Ужо на самым пачатку існавання віленскай арганізацыі браты мусілі выкінуць літоўца Донатаса Малінаўскаса, які быў у складзе першай сямёркі, але пайшоў на супрацоўніцтва з царскімі ўладамі па нацыянальна-літоўскіх меркаваннях.

У студзені 1913 г. расійскія ложы вырашылі аддзяліцца ад Вялікага Усходу Францыі і стварылі сваю арганізацыю — „Вялікі Усход Народаў Расіі". У прынцыпе яна мела прапагандаваць ідэі „свабоднай федэрацыі народаў", якія насялялі Расійскую імперыю. Сапраўды, дамінаваныя кадэтамі пецярбургскія і маскоўскія ложы прабавалі накінуць іншым накірунак дзейнасці, які адпавядаў інтарэсам Расіі. Таму ў 1913 г. з віленскіх ложаў выйшла шмат палякаў, якія не згадзіліся на залежнасць ад расійскага масонства. Сярод іх былі: Ян Пілсудскі, З. Нагродзкі, Б. Кжыжаноўскі і В. Абрамовіч, якія перайшлі да ложаў у Каралеўстве Польскім.

*(праця г будзе)*

**Алег Латышонак**

# Барацьба са злачыннасцю

Лукашэнкаўскае тэлебачанне ўжо некалькі тыдняў запар у галоўным выпуску „Навін" паказвае пастаянную хроніку, азагалоўленую „Барацьба са злачыннасцю". Ужо сама рэкламная заява гэтага тэлесюжэта можа парушыць псіхічную раўнавагу нармальнага чалавека. У хроніцы паказваюць, як нейкага мужчыну, які адыгрывае злачынцу, кідаюць на зямлю, а затым супрацоўнік міліцыі ці кадэбіст прыстаўляе яму ствол пісталета да патыліцы. Глядзяць на гэтае зверства дзеці і моладзь. Такім чынам малады чалавек асвойваецца з думкай, што добры ахоўнік парадку абавязкова мусіць быць брутальным хамам, што гэта такая службовая норма.

Асноўная частка матэрыялу ў згаданай хроніцы заўсёды прысвячаецца дасягненням міліцыі і КДБ у змаганні са злачынцамі. У гледача ствараецца ўражанне, што злачынцы знаходзяцца ў кожным месцы, у кожным асяроддзі і толькі дзякуючы дэкрэтам прэзідэнта Лукашэнкі і дзеянням органаў дзяржаўнай бяспекі большасць грамадзян Беларусі змагла пражыць чарговы дзень. Без судовага прыгавору паказваюцца твары людзей, якіх называюць злачынцамі. Такая практыка не спатыкаецца ў цывілізаваных краінах. Пра віну таго ці іншага чалавека ў дзяржавах шануючых правасуддзе вырашаюць не паліцыянты, але выключна суды. У Беларусі ўлады бессаромна прывярнулі сталінска-савецкую філасофію ў галіне ўспрымання правапарадку. У цывілізаваных краінах дамінуе прынцып, што лепш вызваліць злачынцу, калі існуе толькі падазрэнне ў злачынстве, а няма неаспрэчных доказаў віны. Сталінска-савецкая сістэма, як вядома, рэалізавала іншую канцэпцыю захавання парадку — лепш пакараць сотню невінаватых, чым дапусціць да таго, каб адзін вінаваты астаўся непакараным.

Беларускія ўлады і ў гэтай галіне вырашылі вярнуцца да савецкай традыцыі. **(ям)**

# Беларускі сепаратызм

Год 1956 быў асаблівы не толькі ў гісторыі палякаў, але таксама ўсіх нацыянальных меншасцей, што пражывалі ў межах Народнай Польшчы. Пры канцы 1955 года ўлады вырашылі, што кожная меншасць атрымае сваю нацыянальную арганізацыю і прэсавы орган на роднай мове. У першай палове 1956 года такія інстытуты ўжо існавалі.

Узнікненне Беларускага грамадска-культурнага таварыства не выклікала асаблівага энтузіязму сярод беластоцкіх беларусаў, але парушыла польскае асяроддзе. У тым часе наступалі вялікія персанальныя змены ў структурах камуністычнага апарату ўлады. У Беластоку паміж таварышамі польскай нацыянальнасці і праваслаўна-беларускага паходжання ішло падспуднае змаганне за пасты і ўплывы ў партыйных камітэтах, кіраўнічых органах адміністрацыі, пракуратуры, міліцыі. Калі выкідалі з высокага крэсла праваслаўнага, той найчасцей пачынаў тады прызнавацца да свае нацыянальнасці і крычаць, што праследуюць яго як беларуса. Польскія камуністы на вяршыню ўлады імкнуліся з заклікам: „Стрымаць беларускіх нацыяналістаў!"

Асаблівых патрыятычных пачуццяў не трэба было выклікаць сярод польскага грамадства. У партыйныя і міліцыйныя органы плылі ананімныя лісты з інфармацыяй аб пагрозе новага падзелу Польшчы. Паводле інфарматараў, такі падзел рыхтаваўся „Беларускім камітэтам". Камітэтам называлі тады Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Для большасці палякаў не было вядома, што Таварыства стваралася менавіта ўладамі. Тым не менш кожны, нават ананімны, ліст перадаваўся ў адпаведныя партыйныя камісіі для праверкі, ці часам яго змест не адлюстроўвае нейкай сенсацыі пра беларусаў.

У ліпені 1956 года нейкі даверaны інфарматар Цэнральнага камітэта ПАРП А. Лашэўскі пісаў, што сепаратысцкія настроі так здамінавалі працу дзеячаў БГКТ, што яны адкрыта заяўляюць аб неабходнасці далучэння ўсходняй Беласточчыны да БССР. Сяляне — пісаў Лашэўскі — прадаюць свае гаспадаркі і ўцякаюць на захад Польшчы. Не хочуць трапіць у калгасы. Інтэлігенцыя — наадварот — заяўляе, што сталіцай беластоцкіх беларусаў ёсць Мінск, а не Варшава. У сувязі з існуючай сітуацыяй у адстаўку падаўся сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Аляксей Казёл.

Невядома ад каго эмісар ЦК атрымаў такія інфармацыі, з кім кантактаваўся ў Ваяводскім камітэце ПАРП у Беластоку. Спецыяльная камісія, якую ўзначальваў таварыш Енджэйчак, выявіла аднак, што Казёл сапраўды заявіў аб намеры падаць ў адстаўку, але з-за недастатковай дапамогі для БГКТ з боку Ваяводскага камітэта партыі. У справе сепаратысцкіх настрояў сярод дзеячаў БГКТ Енджэйчак напісаў, што апрача плётак у польскім асяроддзі нішто не пацвердзіла гэтых фактаў.

Больш сенсацыйны быў змест ліста ў ЦК ПАРП, падпісаны „Mieszkańcy Bielska Podlaskiego". „Od dłuższego czasu — пісалася ў лісце — mieszkańcy naszego miasteczka, a przez to też w całym powiecie żyją w panice i przerażeniu. Powstały za zezwoleniem władz tzw. Komitet Białoruski rozpoczął dość energiczną akcję na rzecz jeszcze jednego rozbioru Polski. Wysłannicy, czy też delegaci tegoż Komitetu w Bielsku Podlaskim, a także w całym województwie białostockim zbierają podpisy pod petycją do Rządu Białoruskiego SSR celem przyłączenia do Białej Rusi powiatu sokólskiego, hajnowskiego, bielsko-podlaskiego i części białostockiego. Tych Białorusinów, którzy bronią się przed podpisywaniem grożą wywiezieniem na daleką Syberię". Паводле аўтараў ліста, агітацыяй займаюцца былыя купцы, кулакі, класавыя ворагі, якія жывуць у шыкарных вілах, а таксама калабарацыяністы, якія ўцяклі з Беларусі ў 1944 годзе разам з нямецкай арміяй. Найбольш небяспечнымі для польскай дзяржавы аўтары назвалі настаўнікаў Беларускага і Педагагічнага ліцэяў, а таксама дырэктара мясцовага тэхнікума Канстанціна Майсеню.

Канструкцыя гэтага апошняга ліста была згодна з формай класічнага даносу з першай паловы пяцідзесятых гадоў. У 1956 годзе ананімнага даносу аднак было мала, каб некага арыштаваць. Камуністычныя ўлады ў шматлікіх выпадках проста пачалі правяраць іх згоднасць з рэчаіснасцю. Супрацоўнікам органаў бяспекі перасталі даваць медалі за колькасць пасаджаных у турмы грамадзян.

Плёткі спараджалі аднак новыя міфы, атмасфера падазронасці ў адносінах да беларусаў ахапіла таксама партыйны апарат. Каб паўстрымаць ход падзей у невядомым напрамку, Сакратарыят ЦК у лютым 1957 года пачаў барацьбу з нацыяналізмам і расізмам у нутры партыі, а пасля з праявамі нецярпімасці ў адносінах да нацыянальных меншасцей з боку польскага грамадства. У кароткім часе ўдалося астудзіць распаленыя нацыянальныя эмоцыі. Але ўлада была тады зацікаўлена такім менавіта працэсам. Дзесяць гадоў пасля пачынала перамагаць іншая канцэпцыя нацыянальнай палітыкі польскіх камуністаў.

**Яўген Мірановіч**

# „Навучыўся радавацца чужой радасці...”

## *Лісты Міхася Забэйды-Суміцкага да Максіма Танка*

Міласцю Божай спявак Міхась Забэйда-Суміцкі і паэт Максім Танк... Сёння, мабыць, кожнаму ведама, што гэтыя два выдатныя сыны Бацькаўшчыны-Беларусі жылі і тварылі, паддаючыся вымогам падкрэслена сумленнага, высакароднааxвярнага слугавання абранай справе, адно кіруючыся зоркамі Дабра ды Праўды, Гармоніі ды Харaства. Неадцуранствам ад свайго, радзіма-роднага, заўсёднай зараджанасцю высокімі чалавечымі прынцыпамі і ідэаламі яны, гэтаксама, як і некаторыя іншыя дзеячы нацыянальнай літаратуры і мастацтва, у пэўным сэнсе з'яўляліся рэтра-арыгіналамі, унікатамі свайго вельмі няпростага часу. Артыстычна-вытанчаны пясняр-спявак і віртуозна-дакладлівы пясняр-паэт былі блізкія між сабой асновамі нутраной талеранцыі, самой арганізацыяй мыслення, памкненнем да „волі чалавечае асабістасці” (Г. Грыб), нейкай характэрнай душэўнай узлагоджанасцю і самапачуццём, урэшце падкрэслена пашанотным стаўленнем да помлівых дзей і зрухаў далёкай і блізкай нацыянальнай бывальшчыны.

Самотна-доўгім гадам і дзесяцігоддзям далечнай ростані не пад сілу было расчужыніць двух маэстра, суб'ектсуб'ектныя адносіны якіх адпачатку вызначаліся высокай маральнай экалогіяй і шчырасцю. Да самых апошніх часін яны адчувалі патрэбу ў душэўна-чалавечай спакроўленасці, духоўнай лучнасці і людскаванні. Анітрохі не мялела, заставалася іканаграфічным пачуццё іх цёплага сяброўскага ладзьбавання і прыхільнасці, з гадамі нязменна мацавейшым станавіўся нацыясофскі характар лістоўных кантактаў і ўзаемадачыненняў, якія, як ведома, запачаткаваны былі яшчэ ў перыяд замглёна-далёкага даваення, калі будучы народны паэт, лаўрэат Ленінскай прэміі толькі адольваў асновы мастакоўска-паэзіятворчага словатворства, спасцігаў нутраныя глыбіні версіфікацыйнай спрактыкаванасці і вывучкі. Так, упадаючы душою ў клопат часу, паэт і спявак знаходзілі магчымасці пісаць адзін аднаму, карэспандаваць аб сваім жыцці-быцці і працы, шматлікіх планах і шчымліва-балючых трывогах, урэшце, надзеях. Абодвух ахутвала-саграваля і, як ні дзіўна, вяла наперад мройліва-трапяткая нітка ўспамінаў і згадак.

Варта акцэнтаваць тую акалічнасць, што хоць М. Танк і лічыўся дужым знаўцам парадку і характару выгрунтоўвання многіх палітычных рашэнняў і арганізацыйных вывадаў (дарэчы, лёс ахаваў нам яго самога шмат у чым выпадкова), у супрацьвагу многім сваім творчым пабрацімам, ён, бадай, ніколі не паддаваўся таннай кан'юнктуры, не парываў сувязей з асобамі, так бы мовіць, на пэўным этапе грамадска-сацыяльнага жыцця непапулярнымі, у нечым нават крамольнымі ці што. Якраз гэтак было з Ларысай Геніюш, Паўлінай Мядзёлкай, Пятром Бітэлем... Ён ведаў, спазнаўшы напоўніцу смак і прысмак чужаземшчыны, мужна адольваючы нудоту адчужанасці і адзіноты, падазронасць і недавер, М. Забэйда-Суміцкі не інакш як мілаваў кожную драбніцу са спавешчаных яму культуровых варункаў Радзімы, працы музычных, спявацкіх калектываў. Паэт намагаўся калі не суняць, то хоць бы ў нейкай меры прыцішыць душэўны боль і верад спевака, развеяць тугу і засумленасць па родным краі і яго людзях, цешыў яго спадзеўкамі на хуткія адведзіны Беларусі, пасабляў-абнадзейваў, як гэта ён умеў, далікатнымі парадамі і рэкамендацыямі. Усведамляючы, што Бацькаўшчына моцна завінавацілася перад маэстра, ён не лічыў за ўдругарадзь лішні раз распавесці ў сваім лісце пра тое, што яго канцэртна-спявацкая творчасць уяўляе вялікую духоўна-маральную самакаштоўнасць і эстэтычнае значэнне, яна добра ведама на Радзіме, так ці інакш слугуе інтарэсам беларусаў, усёй этнасацыяльнай супольнасці.

Максім Танк наўрад ці быў мацавейшы здароўем, хваробы неаднакроць злосна падкошвалі яго самога — напрыклад, тузала хранічная арытмія сэрца, звальваў цяжкі грып. Але дбаць пра сябе ў яго не дужа атрымлівалася: адгукліва-парывіста рэагаваў ён на нездароўчасць і недамогі М. Забэйды, шукаў і дасылаў яму ратаўнічыя лекі, гаючыя зёлкі і інш. Калі ж вымалася магчымасць на колькі дзён выбавіцца ў якую еўрапейскую краіну, тым больш Чэхаславаччыну, абавязковым парадкам аплаnоўваў зазірнуць у Злату Прагу, наведаць знакамітыя Вінаграды і Польскую вуліцу, дзе месцілася жытло і майстроўня слыннага беларускага спевака і педагога.

У сваю чаргу, як паказваюць лісты, даверам і шчырасцю, клопатнай чуласцю і дабрынёй намагаўся дзячыць свайму даўняму сябру і аднадумцу Міхась Забэйда-Суміцкі, жыццё якога пры ўсёй сваёй знешняй паспяховасці і камфорце было досыць няпростым, спарадычна ацямнялася большымі ці меншымі няўладзіцамі і турботамі. Пасля вядомага наведання Беларусі ўлетку 1963 года болей спеваку яе так і не лёсіла было ўвідавочыць, хоць, здавалася б, уся яго культуровая дзейнасць з'яўлялася падкрэслена асацыяльнай і ўжо тым больш апалітычнай. А між тым, душа нястрымна лекатала, поўнілася ахвярнай утрапёнасцю ў памкненні крыляць на Радзіму, дзе, ён ведаў, жылі шматлікасныя і сапраўдныя прыхільнікі і цаніцелі яго ўталентаванага дару. Невыпадкова на яго выкананні беларускіх народных песень заўсёднай паваловай ляжала настраёвасць медытатыўнай засумленасці і тугі, умілажаленасці і скрухі.

Разведзеныя разгоністымі бальшакамі жыцця і часу, пераадольваючы непамыслоты і пяклуючыся кожны на сваёй дзялянцы культурнай нівы, Міхась Забэйда-Суміцкі і Максім Танк нерушавасць сваіх самаадносін здолелі пранесці цягам доўгага паўвечча.

У наступных нумарах прапаную ўвазе чытачоў лісты Міхася Забэйды-Суміцкага да Максіма Танка, колькі часу таму выяўленыя мною ў сховішчах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

**Мікола Мікуліч,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**загадчык кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я. Купалы.**

# Атрасіны ліцэістаў

24 кастрычніка 1997 года ў II Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы адбыліся атрасіны першакласнікаў. Ужо традыцыйна ў час мерапрыемства сваімі малодшымі сябрамі мелі заапекавацца другакласнікі, якія добра памяталі ход такой сустрэчы яшчэ з мінулага года і стараліся падрыхтаваць не горшыя атракцыёны. Правялі яны скарочаную падрыхтоўку да выконвання карысных прафесій і ў шчыльна зачыненым актавым зале рыхталі свае месцы працы. Хуценька паўсталі: цырульня, кавярня, сталовая, дом моды і апeрацыйны стол са складанай апаратурай і неабходнымі прыладамі. Маладыя кандыдаты ў школьную сям'ю прыйшлі масава і з нецярплівасцю чакалі пачатку выпрабаванняў, якія мелі паказаць, ці ўсе яны здатныя стаць сапраўднымі вучнямі ліцэя. Спачатку, яшчэ без школьнай публікі, згодна з апошнімі навінкамі ў модзе, размалявалі малодшым сябрам твары. Вучні паасобных класаў выцягнулі свае лозунгі і з усмешкай віталі гасцей. Кавалеры з горада не мелі дазволу на ўваход у школу і маглі паглядзець на прыгожых ліцэістак толькі праз вокны актавага зала. Гімны, якія праспявалі маладыя вучні, зрабілі мерапрыемства больш урачыстым і дастойным. Першымі ўзяліся за працу лекары, якія правялі некалькі складаных аперацый на хваравітых вучнях і тыя хуценька выздаравелі. Найбольш стройныя прэзентавалі „гіты” апошняй моды. Самых галодных сваімі ласункамі манілі кавярня і сталовая. Толькі выбраныя маглі вельмі модна падстрыгчыся. Былі і іншыя конкурсы-атракцыёны. Кожны першакласнік хацеў паказаць сябе найбольш дастойна. Глядзелі ж не толькі вучні і настаўнікі, але ў школу прыйшлі і бацькі. Непрадуманымі, аднак, аказаліся апошнія спаборніцтвы, у час якіх вядучая крыкам хацела звярнуць на сябе ўвагу хлопцаў. Калі ўсе першакласнікі паспяхова перайшлі выпрабаванні, далі прысягу. Пазней былі ўжо толькі танцы.



*Танна і смачна.*

**Аляксей Мароз**

# „Наша ніва” і ўсходняя Беласточчына

**Частка 3**

Цікава, што „Наша доля” ад пачатку да канца свайго кароткага існавання прысвечвала многа ўвагі мастацкай літаратуры. У шасці нумарах тыднёвіка было апублікаваных адзінаццаць вершаў і два апавяданні. Трэба сказаць, што ўсе вершы былі падпісаны псеўданімамі. Сярод аўтараў вершаў першае месца займеў Якуб Колас, які апублікаваў у „Нашай долі” такія творы як: „Наш родны край”, „Асенні вечар”, „Беларусам”. Усе змешчаныя ў тыднёвіку вершы адзначаліся досыць упрошчанай паэтыкай і тэматычнай манатоніяй. Варта, аднак, памятаць аб тым, што былі гэта толькі пачаткі беларускага нацыянальнага і літаратурнага адраджэння. Што датычыцца прозы, дык у „Нашай долі” паявіліся апавяданні Цёткі „Прысяга над крывавымі разорамі” і Ядвігіна Ш. „Суд”. Твор Цёткі, як вядома, стаўся хрэстаматыйным творам і ўвайшоў ва ўсе падручнікі па гісторыі беларускай літаратуры. Твор Ядвігіна Ш. даў пачатак гумарыстычнай тэндэнцыі ў беларускім літаратурным адраджэнні пачатку ХХ ст.

Вяртаючыся да публіцыстыкі „Нашай долі” варта адзначыць, што выступіла ў ёй рашучае асуджэнне жыдоўскіх пагромаў. Рэдакцыя аднaзначна выступала супраць антыжыдоўскіх выступленняў, бачачы ў іх царскую ўрадавую інспірацыю. Характэрнай рысай „Нашай долі” было тое, што яе журналісты вельмі часта выкарыстоўвалі інфармацыі, апублікаваныя ў польскіх і рускіх газетах. Былі гэта, як правіла, здарэнні, якія адносіліся да праяваў розных чалавечых крыўдаў або да бяспраўных дзеянняў царскіх уладаў і паліцыі.

Вельмі цікавай была пастаянная абшырная рубрыка пад загалоўкам: „З Беларусі і Літвы”. У рубрыцы гэтай змяшчаліся рознага тыпу кароткія інфармацыі з усёй Беларусі, у тым ліку і з усходняй Беласточчыны, якая тады ўваходзіла ў склад Гарадзеншчыны.

І так у першым нумары тыднёвіка была змешчана вестка, якая сведчыла аб тым, што дух супраціву і пратэсту агарнуў таксама нашу старану. Вось змест гэтай весткі:

„З Бельскага павету Гродзенскай губерні. Да „Нашай долі” пішуць: 24 іюля (ліпеня) крэсціяне ўсёй кленікскай воласці на валасным сходзе прыгаворам нр. 8 пастанавілі не спаўняць стойкавую павіннасць пры становай кватэры. Тое самае яшчэ раней пастанавілі на валасных сходах крэсціяне Ласінскай і Паўлаўскай воласцей”.

Гэта была адзіная інфармацыя аб нашай зямлі у „Нашай долі”. Сведчыла яна аб тым, што ўжо перад выхадам першага нумара віленскага тыднёвіка вестка аб ім дайшла аж да Кленік, з якіх нехта напісаў у „Нашу долю”.

У „Нашай ніве”, якая выходзіла ў гадах 1906—1915, весткі аб усходняй Беласточчыне былі вельмі частыя і цікавыя. Даюць яны ўяўленне аб многіх вельмі цікавых падзеях, якія мелі месца ў жыцці беларусаў між Сакалдой і Бугам.

Вяртаючыся да „Нашай долі”, трэба сказаць, што рэдагавалася яна вельмі цікава. Публікацыі яе былі, наогул, кароткія, змястоўныя і цікавыя. Выдаўцы тыднёвіка займалі паслядоўна антыцарскую пазіцыю і моцна прапагандавалі ідэю беларускага культурнага, асветніцкага і гаспадарчага адраджэння.

**Алесь Барскі**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Вершы Віктара Шведа

### Найлепшая прафесія

Настаўніца пытае:
— Скажыце мне, дзеці,
Прафесія якая
Найлепшая на свеце?

— Найлепшая, вядома,
У майго дзедкі дома.
— А кім твой дзедка, Вера?
— Пенсіянерам.

### У ларынголага

Да лекара Мікола
Пайшоў са сваёй цёцяй.
Хваробу ларынголаг
Шукае ў яго роце.

— Адкрый рот, недарэка, —
Сказала цёця з жалем, —
Каб з твайго горла лекар
Мог выцягнуць свой палец.

**Віктар Шніп**

### Што прыснілася лісіцы і сабаку

У нары лісіцы
Куранятка сніцца.
Сняцца ёй прысмакі,
Добранькі сабака
Перад ёй, лісіцай,
Нібы прад царыцай
Камароў ганяе
І людзей пужае.
А сабаку сніцца:
Да яго лісіца
Зноў прыбегла ў хату
І дала багата
Костачак цукровых,
Пернікаў мядовых.



*Хлапчукі з Орлі.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Крыначка — святое месца

У мінулым школьным годзе ў бельскай „тройцы” Дарафей Фіёнік сарганізаваў этнаграфічныя заняткі, у якіх і я прымаў удзел. У кастрычніку гэтага года мы ізноў сустрэліся.

На восень была запланавана экскурсія ў святое месца — Крыначку. Яна знаходзіцца ў Белавежскай пушчы, непадалёк горада Гайнаўкі.

Да Крыначкі вядзе прыгожая лясная дарога. Падарожжа выклікае непаўторны настрой. Паабапал дарогі растуць елкі, дубы, грабы. На зямлі ляжыць незлічоная колькасць лісця. Гэта ўсё выглядае вельмі прыгожа.

Над Крыначкай, паводле легенды, калісьці паказалася Божая Маці. З гэтага месца пачала біць крыніца. Яна мае цудадзейную сілу. У гэтым месцы пабудавалі царкву.

У трыццатых гадах на Крыначцы стварылі вайсковую часць. Святое месца і вялікая частка лесу вакол яго цяпер абгароджаны дротам.

Калі пачалася II сусветная вайна, людзі баяліся хадзіць на Крыначку. Яна была занядбаная.

У царкве служыцца толькі ў час некалькіх свят.

Будучы ў гэтым месцы, я адчуў ягоную святасць. Вялікія дубы дапамагалі ў стварэнні пачуцця, што я сапраўды апынуўся ў святым месцы. Экскурсія на Крыначку выклікала ў мяне непаўторнае ўражанне.

**Міхась Сцепанюк**

## Конкурс, конкурс, конкурс!

**(н-р 6)**

*(літаратурныя гульні)*

Адкажыце на пытанні. Адказы на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Аўтары правільных адказаў могуць выйграць беларускія кніжкі. **Увага!** У конкурсе могуць прыняць удзел ліцэісты.

1. Назавіце першы зборнік вершаў Максіма Танка.
2. На якой мове напісаны Статут Вялікага княства Літоўскага?
3. Кім па прафесіі быў Паўлюк Багрым?
4. Дзе нарадзіўся беларускі пісьменнік Аляксей Карпюк?
5. Назавіце аўтара паэмы „Тарас на Парнасе”.

**Адказ на літаратурны конкурс н-р 2**

1. Асоба Усяслава Чарадзея ўпамінаецца ў старажытным помніку беларускай літаратуры „Слова пра паход Ігаравы”.
2. У 1517 г. у Празе Францыск Скарына пачынае выдаваць біблейныя кнігі. На працягу 1517—1519 гг. Ф. Скарына выдае дваццаць біблейных кніг, перакладзеных на беларускую мову.
3. У радах паўстанцаў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага змагаўся беларускі пісьменнік Францішак Багушэвіч.
4. Першы і адзіны зборнік Максіма Багдановіча — „Вянок”.
5. Сапраўднае прозвішча паэта Алеся Барскага — Аляксандр Баршчэўскі.

Новы зборнік паэзіі **Уладзіміра Гайдука „Пах аернага хлеба”** выйграла **Аня Садоўская** з I „ц” класа Гайнаўскага беларускага ліцэя.

**Віншуем!**

## Кароль і каралева

10 верасня г.г. вучні V-VIII класаў Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных пайшлі ў лес. Нам абяцалі печаную бульбу. Аднак замест бульбы нас сустрэлі печаныя каўбаскі і аранжада.

Калі мы паелі, нашы настаўнікі — Ю. Несцярук, М. Казімерук і В. Млодзян — прапанавалі нам паспяваць песні. Усе згадзіліся паслухаць беларускія песні, якія мы вывучылі на гуртку „Жывое слова”: „Чараўніцу”, „Дзве курачкі”, „Каля рэчкі, каля броду”.

Нам, старэйшым, трэба было развесяліць малодшыя класы. Першай гульнёй, якая прыйшла нам у галаву, была „Кароль і каралева”. Сярод вучняў мы выбралі дзве асобы — дзяўчынку з VII класа і хлопца з VIII класа. Нашай задачай было падрыхтаваць ім уборы. Хлопцы мелі за задачу пераапрануць свайго сябру за каралеву, а мы — дзяўчыну за караля. Пасля пяці хвілін героі гульні былі пераапрануты. Усім вельмі спадабаліся строі. Было многа смеху. Ад радасці і апошнія пачалі пэцкацца вугалем і бегаць па лесе.

На жаль, трэба было вяртацца ў школу. Вогнішча дагарэла.

**Бася Казімерук**
**VIII кл. ПШ у Дубічах-Царкоўных**

## *Пішуць школьнікі*

**Вітай „Зорка”!**

Мяне завуць Ірэна Драўноўская. Я ўжо вучуся ў VII класе. У мой клас прыйшло двух новых вучняў — Арон Алексяюк, сын пані дырэктар і Збышэк Главацкі. На жаль, яны не ходзяць на беларускую мову.

У маім лісце хачу расказаць пра маю сям'ю. У маёй сям'і ёсць сем асоб: я, мама, тата і 4 сястрычкі. Маіх сястрычак завуць: Бася, Эля, Кася (Эва) і Крыся. У нас каля хаты ёсць невялікі садок, агарод з кветкамі і гароднінай. У садку растуць кусты агрэсту, парэчак (жоўтых, чорных, чырвоных). У агародзе растуць морква, фасоля, буракі, гуркі, капуста, дыні, сланечнікі, цукінія. У наступным годзе мая сястрычка Бася пойдзе ў школу.

**Ірэна Драўноўская, клас VII**
**Падставовай школы**
**ў Новым Корніне.**



*Капліčка ў Кнарыдах.* Мал. Цэліны ГЛАГОЎСКАЙ з Гданьска

# Дажынкі ў Беластоку

24 кастрычніка г.г. у беларускім дзіцячым садку, што ў Беластоку, праходзіла восеньскае свята. Дзеткі і настаўнікі падрыхтавалі п'есу „Дажынкі". Зразу ж можна было захапляцца сцэнічным афармленнем, якое наводзіла восеньскі настрой. За агароджай красаваліся сланечнікі і восеньскія кветкі. На карычневых занавесках, што нагадвалі пожню, стаялі снапкі жыта. Пастаноўка пачалася жніўнай песняй „Васілёчкі".

Далей за вароты выйшлі гаспадары — Аня Яканюк і Міхась Сцепанюк. Яны прывіталі публіку і заклікалі на сцэну сваіх працавітых жнеек. Гэта былі вясёлыя дзяўчаткі ў каляровых спаднічках. Яны расказвалі пра сваю працу. Самая найспрытнейшая жнейка была адзначана залатым вянком з калосся. Гэтая роля прыпала самай вялікай дзяўчынцы ў прадшколлі Еве Сцепанюк. Усе дзяўчаты сумленна працавалі.

*Мне здаецца не лянюся,*
*А ўсё ззаду астаюся —*

хвалявалася адна жнейка. Трэба вам ведаць, што жнейкі працавалі аддана і старанна. Не гонар было адставаць ад іншых. Часам, праўда, траплялася і неахайная жнейка. За ёю трэба было збіраць калоссе і сароміцца перад гаспадарамі. Так і было ў нашай п'есе. Ролю неахайнай жнейкі іграла вясёлая Ганула Пякарская.

Варта пахваліць усіх маладых акцёраў. Дзяўчаткі: Оля Максімюк, Наталька Кандрацюк-Свярубская, Оля Каліна, Магда Саковіч, Ева Сцепанюк, Ася Хмялеўская і Даміміка Крук як і вышэйзгаданыя дзеткі, прыгожа дэкламавалі свае назначаныя ролі. Таксама і хлапчукі Міхась Сцепанюк, Яраслаў Хіліманюк і Міхась Місеюк смела і сімпатычна паводзілі сябе на сцэне.

Падабаліся таксама прыпеўкі. Дзеткам дапамагаў тата Юліты і Касі сп. Андрэй Жамойда, які іграў на гармоніку. Дашкольнікі класна танцавалі польку-бульбу.

А пасля іх выступлення гітару ўзяў беларускі бард з Гародні Віктар Шалкевіч. Яго песні навялі настрой бурнай гульні. Дзеткі, быццам герой песні „Шэры козлік", брыкалі і гагаталі. Пасля канцэрта цяжка было прывесці іх да парадку.

**Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*





*↑ Выступае Віктар Шалкевіч.*
*↓ Даміміка Крук і жнейкі.*

# Міфы старой Беларусі

**10. Дабрахочы**

Дабрахочы — лясны бажок. Рост яго залежыць ад вышыні дрэў, вакол якіх ён знаходзіцца. Яго бачылі заўсёды роўным з дрэвам, пры якім ён стаяў. Дабрахочы, як падказвае сама назва, добры дух. Ён заўсёды апякуецца сумленнымі людзьмі, але сурова карае нягоднікаў. Гэтым апошнім пасылае пакутлівыя хваробы. Каб усцерагчыся ад смерці, нягоднік вымушаны пайсці да добрага чалавека, каб той задобрыў Дабрахочага. Бажку трэба занесці сціплую ахвяру— акраец хлеба і шчопаць солі, загорнутыя ў чысты шматок. У лес павінен ісці добры чалавек і нягоднік. Яны разам пакідаюць ахвяру, моляцца над хлебам і соллю, нягоднік заракаецца чыніць зло. Калі ўсе практыкі будуць выкананы добрасумленна, тады хворы вяртаецца дамоў здаровым. Дабрахочы мае і адну непрыстойнасць. Калі нехта першым ступіць у яго след, адразу заблукаецца ў лесе. Здараецца такое выпіўшаму мужыку, якога Дабрахочы можа трымаць аж да вечара. Пазней такі расказвае дзіўныя рэчы.

# Беларуская Савецкая Рэспубліка

Ні бальшавікі, ні палякі не ўшанавалі волі прадстаўнікоў беларускага народа, выяўленай 25 сакавіка 1918 года. Беларуская Народная Рэспубліка, хаця прызнаная дванаццацю краінамі свету, не была ў змозе абараніцца ад палякаў і расейцаў. Бальшавікі, хаця не прызналі беларускай незалежнай дзяржаўнасці, вырашылі стварыць сваю — камуністычную. 1 студзеня 1919 года аб'явілі яны ўзнікненне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Уключала яна тэрыторыю Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай губерняў і некаторыя паветы Віленскай, Смаленскай і Ковенскай. Два месяцы пасля камуністы аб'явілі зусім новую форму беларускай дзяржаўнасці ў выглядзе Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Фактычна папярэдняя БССР перастала існаваць. Расейскія бальшавікі ўстанавілі на Беларусі дыктатуру і тэрарыстычную форму кіравання. Пасля 1921 года заходняя частка Беларусі ў выніку рыжскага пагаднення паміж палякамі і расейцамі была аддадзена Польшчы, а ўсходняя — уключана ў склад Расіі. 27 ліпеня 1920 года бальшавікі вырашылі, аднак, пакінуць адміністрацыйную адзінку з назвай Беларуская Савецкая Рэспубліка. Тэрыторыя яе абмяжоўвалася да шасці паветаў Мінскай губерні. У 1924 годзе Савецкая Расія вярнула Савецкай Беларусі Віцебшчыну і Магілёўшчыну, а два гады пазней — Гомельшчыну. У такім кшталце БССР ператрывала да 1939 года.

У дваццатых гадах бальшавікі пачалі праводзіць беларусізацыю Беларусі. Школы, адміністрацыя, культурнае жыццё развіваліся на беларускай мове. У 1930 годзе камуністы пачалі знішчаць беларускую культуру і яе стваральнікаў. Мала хто з выдатных пісьменнікаў, мастакоў ці інтэлектуалаў перажыў сталінскія рэпрэсіі 30-х гадоў.

## Вясёлы куточак:

Пытае настаўнік Яся:
— Чым займаецца твой бацька?
— Ён хворы.
— Ну, добра, але чым ён займаецца?
— Кашляе і стогне.

* * *

— Як ты паламаў руку?
— Ехаў на кані, конь спыніўся, а я паехаў далей.

* * *

— Татка, купі мне цымбалы.
— Не, ты будзеш мяшаць мне ў працы.
— Ды не, я буду іграць толькі тады, калі ты пойдзеш спаць.

Даслаў
**Томэк Дзямянюк з Падрэчан**

# Польска-беларуская крыжаванка № 46

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Schemat | | Murawa | | Nostalgia | | Rzeka | Równi tobie |
| | Kolonia | | | | | | |
| | | Ręka | | | | | |
| | Legowisko | | | | | | Dziób |
| | Chomąto | | | | Włos | | |
| | Mięso | | Kasza | Wiąz | | | |
| Mak | | | | Czoło | | Oda | |
| Jama | | | | Woda | | | |
| Susz<br>Chata | | | | | | | |
| | | | | Sad | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 42:**

*Польска-беларуская крыжаванка:* Клак, глыток, акула, саха, клас, лыка, катух, кола, кат.

*Крыжаванка Касі Леанюк:* Школьнік.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі: **Ева Ахрымюк** з Падбаравіска, **Марта Добаш** з Бельска-Падляшскага, **Іанна Кананюк** з Васькоў, **Марцін Мялешка** з Катоўкі, **Славамір Калнаўс** з Мокрага. Віншуем!



Талон „Зоркі" № 46
16.11.1997

# Венскі вальс

**Даволі доўга прыйшлося мне дамаўляцца са спадаром Юрым НАЛІВАЙКАМ на гэтую размову: не ладзіліся тэрміны. І калі ўжо ў гарачы летні дзень дайшло да гутаркі — пазней не зладзілася мне і вось толькі цяпер магу яе прадставіць.**



— Чаму ж гэта ў Вас так нямнога часу? — пачаў я.

— Бо я яшчэ нікуды не спяшаю; трэба многа спраў аформіць. Рэпетыцыі маю: з гарадоцкім хорам па серадах і з беластоцкім — па чацвяргах. Да таго ж я яшчэ выступаю два разы ў тыдзень з кабарэ сеніёраў „Шпілька", які працуе пры ВААКу. Кабарэ гэтае існуе ўжо шаснаццаць гадоў, — я ў ім ад васьмі; — дае недзе каля трыццаці спектакляў у год і лічыцца лепшым у краіне ў сваёй катэгорыі.

Раней займаўся я яшчэ спортам; у валейбол іграў — пакуль балельшчыкі крычалі мне „Stary — bij!", але калі пачалі крычаць „Dziadek — bij!", тады кінуў. Калісь наша каманда ўзяла нават кубак за першае месца ў ваяводскім класе А, а цяпер спаборнічаю рэдка; вось у мінулым годзе адзначалі 50-годдзе ЛЗС і я выступаў у турніры гмінаў. З унукамі толькі спаборнічаю, бо яны да гэтага вельмі ахвотныя. А ў спорт я прыйшоў з малога: каля школы жыў і са спартыўнай пляцоўкі мяне трэба было зганяць. Пасля ў „Станах"...

— ?

— У Казахстане, Узбекістане... І ў войску — на пустыні ў Іраку ў футбол гуляў.

— Як жа вы туды папалі? Я ж, слухаючы „Венскі вальс" у вашым выкананні, быў перакананы, што вы савецкім байцом бралі Вену...

— Калі мне было восем гадоў, памёр мой тата і мама пазней за война выйшла. Калі прыйшлі саветы, айчыма забралі і прапаў ён; добры чалавек быў — пры ім пабудавалі ўсе школы і касцёл, хаця сам праваслаўны быў. А за ім забралі і нас: мяне, маму і старэйшага брата. Брата ў Узбекістане ўзялі ў Савецкую Армію і ён загінуў пад Сталінградам 24-га лістапада 1942 года, акурат у той дзень, калі завяршалася акружэнне нямецкіх войск; там магіла з яго прозвішчам.

А мама і я падаліся за арміяй Андэрса. Ужо ў іранскім порце Пехлеві ўступіў я добраахвотнікам у Польскае Войска хаця хворы быў і гарачку меў. Там нашу старую вопратку палілі, а нам давалі новую. Назначылі мяне ў пяхоту і паслалі на курс вадзіцелей, бо ў Узбекістане быў я трактарыстам. Пасля захварэў я на жаўтуху, і калі рэарганізавалі дывізію, назначылі мяне ў зенітную артылерыю. Здалося мне гэта прыніжэннем, і я нават ужо хацеў ісці дамагацца пераназначэння назад у пяхоту. Пазней так склалася, што з тае пяхотнае роты, у якой раней быў я, з вайны вярнуліся толькі сем чалавек, і ўсе яны пакалечаныя.

З Ірана цераз Ірак папалі мы ў Ліван, там мама стала на працу ў шпіталь, а мяне з войскам адправілі ў Італію. На Монтэ-Касіна нас, зенітчыкаў, *спешылі*. Гебельс гаварыў, што польская пяхота перастала існаваць, але гэта было няпраўдай. На Монтэ-Касіна лёгка было, бо немцы не мелі там авіяцыі. Я ездзіў на матацыкле, матацыкл мой без амартызатараў быў, і цяпер ад тае язды маю клопаты з ныркамі і страўнікам. Вайна закончылася мне каля Балоны. Пасля была падафіцэрская школа, якую я закончыў выдатнікам. І зноў вярнуліся спартыўныя гульні. Гуляў я раз у валейбол і на нашу пляцоўку папаў мяч, якім гулялі футбалісты. І я яго так ударыў нагою, што ён заляцеў за палову футбольнага поля, і тады мяне трэнер футбалістаў і ў футбол зацягнуў, і ў варотах я стаяў; займаўся я яшчэ і лёгкаатлетычным трохбор'ем. У 1946 годзе атрымаў я водпуск і паехаў да мамы ў Ліван, у наступным годзе быў у Егіпце, быў і на Святой Зямлі. 25 кастрычніка вярнуліся мы ў Польшчу. Мама памерла два гады таму, пражыўшы 97 гадоў; яшчэ сорак гадоў пасля вайны пісала сяброўцы: „А мы ўжо ўміралі..." Я ў Польшчы стаў на працу; працаваў будаўнічым столярам у Гарадку і Беластоку. Абрабляў таксама гаспадарку.

— Спяваць перад публікай вы пэўна пачалі ў войску?

— У дывізіёне быў хор, але там толькі *шаржа* спявала, да таго ж большасць песень касцельных. А спяваць я любіў; спявалі мае мама і тата, і я, дзе спявалася, падспеўваў. І ў застоллі, вядома, спяваў, а на эстрадзе стаў я спяваць толькі тады, калі на пенсію выйшаў! Паехаў наш гарадоцкі хор недзе пад Граева, жанчынам трэба было пераапрануцца, дык на той час мяне на сцэну выслалі, каб я нешта ў тым часе заспяваў. Спяваю я, Ніна Мушынская махае мне, каб сходзіў ужо, а публіка не адпускае мяне! І раз у Бераставіцу паехалі мы. Мяне просяць, каб я нешта ад імені ветэранаў сказаў, а я гавару: то мо я лепей гэта праспяваю. І з Сцяпанам Копам заспяваў я „Хотят ли русские войны?"; і тое, што меў сказаць, таксама сказаў. І песняў многа ведаю, бо хапіла мне толькі два разы песню пачуць, і я ўжо ўсё помню. І многа ў мяне такіх песень, якія я вывучыў ад пачатку да канца, але не помню, дзе і калі... Спяванне дастаўляе мне многа радасці, а найбольшая радасць — ад рэпетыцый, бо і спаткаешся, і паспяваеш!

* * *

Юры Налівайка ведае незлічоную колькасць песень. У яго рэпертуары песні беларускія, польскія, рускія, украінскія, італьянскія, англійскія... Апрача вядомых нашай публіцы выступленняў з гарадоцкім і беластоцкім хорамі, выступаў ён і ў конкурсах савецкай песні і на юбілейных урачыстасцях. Ды не толькі выканаўчае майстэрства і багацце рэпертуару Юрыя Налівайкі захапілі мяне; у асабістай яго калекцыі медалі: польскія — медаль Polska Swemu Obrońcy, крыжы кавалерскі і афіцэрскі Polonia Restituta, Krzyż Monte Casino, Medal Zwycięstwa i Wolności KRN, і англійскія — The Italy Star, George VI War Medal, The 1939—1945 Star, The Defense Medal. І ваенны сертыфікат на англійскай мове, дзе напісана: Military Conduct: very good (вайсковыя паводзіны: выдатна).

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота аўтара*

# Магіла

На дубіцкіх могілках ёсць адна запушчаная магіла без помніка, крыжа, кветак — толькі два копчыкі сухой жоўтай зямлі, на якой нават пустазелле не зможа ўчапіцца. І маленькая яна, быццам у ёй пахавалі маленькае дзіця. А пакоіцца там сужонства: ёй было семдзесят, калі памерла, а яму — восемдзесят. І спачываюць яны там як сіроты; ніхто не даглядае іх магілы. Аднойчы жанчыны з вёскі пакойнікаў хацелі па-належнаму прыбраць тую магілу; прывезці торф, пасадзіць кветкі, а нават паставіць крыжык. Адступілі яны аднак ад гэтага плана, бо ж у пакойнікаў свае родныя дзеці ёсць. Адна дачка, праўда, прабывае пастаянна ў шпіталі і яна тут ні пры чым, але другая недзе на адказнай пасадзе, ёсць і сын; маглі б жа яны задбаць пра магілу бацькоў, якія іх вывучылі і вывелі ў людзі — так вырашылі тыя жанчыны. Сумняваюся, аднак, ці калі-небудзь тыя дзеці пачуюць бацькоўскі крык з-пад зямлі.

**Мікалай Панфілюк**

# На жоўты пясок цягнула

— Пра бежанства да канца жыцця не забудзем, — кажа **Мікіта Качан** з Кашалёў.

Мой субяседнік нарадзіўся ў 1912 годзе.

— Слаба я памятаю, як у Расію ехалі, — расказвае дзядуля, — каля матчынай спадніцы яшчэ плёўся. Нас, праваслаўных, рускія ў бежанства пагналі. Страшылі людзей немцамі. Казалі, што тыя бабам грудзі абрэзваюць. З Кашалёў усе падаліся ў бежанства. Толькі адзін гаспадар схітрыў. Замест у Расію ў Пяскі, што ля пушчы, павярнуў. Жонку адтуль трымаў. Як немцы прыйшлі, ён у Кашалі вярнуўся і жыў. І жыды арлянскія асталіся.

Нам страшна было ў тую Расію ехаць. Матка з трыма дзяцьмі асталася. Бацьку рускія на вайну забралі. Усе паехалі, а мы яшчэ радню чакалі і самымі апошнія падаліся. Памятаю, што на апусцелых панадворках ужо салдатня хадзіла. Страву сабе жарылі-парылі. Палову вёскі, ад канца, спалілі. На нашай фурманцы бацькаў брат і сястра ехалі. Яны дапамагалі матцы каня паганяць. Мама расказвалі, што па дарозе майго брата згубілі. Ледзь аднайшлі яго сярод бясконцага этапу.

Найперш у Магілёве затрымаліся. Бяда там была, пяскі і лясы толькі. Нам пашанцавала пераехаць у Саратаўскую губерню. Ну, а там то народ добра жыў. Нас, бежанцаў, хлебам завалілі. Матка крышку на работу хадзілі. І за бацьку, што на вайне, пенсію даставалі. Вёска Альшанка называлася. Мае браты ў школу пайшлі. Я таксама хацеў быць школьнікам. Бывала, зайду, сяду каля брата і слухаю, што настаўнік гаворыць. У школу сам замалы быў. Усё ж навучыўся пісаць і чытаць па-руску. Адзін мой брат, Ігнат, выдатнікам быў. За добрыя ацэнкі салідную, рускую шубу яму далі.

Дзед Мікіта добра ўспамінае людзей з Альшанкі.



*Мікіта Качан з суседкай.*

— Тыя *кацапы* вельмі добра з намі абыходзіліся, — кажа.

Слова *кацап* у яго разуменні мае геаграфічнае значэнне.

— У нас так прынята рускіх называць. Бо то мы, беларусы і ў Польшчы жывём, — паясняе. — У Расіі кожны дзень бліны і пірагі елі. Чай з самавара ўсе пілі і не частавалі.

Дзеду Мікіту запамяталіся святы.

— Тады блінчыкамі, залітымі ў масле, кармілі. Памятаю, як чакаў я, калі радня з царквы прыйдзе. На багаслужбу не еўшы ішлі. Мы, як і альшанскія, посту трымаліся, пакуль у царкве не адслужаць. Ну, але на радзіму цягнула. На свой жоўты пясочак. Як ад'язджалі, то там яшчэ хлеба ў волю было. Матка насушыла сухароў, мукі набралі ў торбачкі, воз палатном абцягнулі і ехалі з вясны па восень. Мне, наймалодшаму, сядзець на возе дазвалялі. Старэйшыя браты пехатой ішлі. Бывала, трыццаць-сорак кіламетраў за дзень прайдуць. Толькі ў Баранавічах пасадзілі нас у таварны цягнік і разам з канём у Рыгораўцы давезлі.

Вёска прывітала нас бярозамі і чарнобылем. Усё трэба было пачынаць нанова. Нам пашчасціла. На панадворку сустрэў нас тата. Ён нас па ўсёй Расіі шукаў. І мы ўвесь час за яго маліліся.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

## Як чытаюць у Нараўцы

У 1998 годзе Публічная бібліятэка ў Нараўцы будзе святкаваць 50-годдзе свайго існавання. Паўвека таму назад яна памяшчалася ў драўляным вялікім будынку кіно „Лес”. Першай загадчыцай яе была Лідзія Бяляўская. Першапачынальніцамі былі таксама Ніна Сікорская і Зыта Савіцкая.

Цяпер у Гміннай публічнай бібліятэцы ў Нараўцы працуюць Мар’я Урбановіч і Анна Стульгіс. ГПБ мае 250 чытачоў, у тым ліку 175 дзяцей і моладзі. Яны не толькі з Нараўкі, але і навакольных вёсак: Гушчэвіны, Альхоўкі, Скупава, Міклашэва, Гарадзіска і Плянты. Бібліятэчны кнігазбор даволі багаты — звыш 11 тысяч тамоў, адным словам ёсць з чаго выбіраць. У гэтым годзе ў бібліятэку купілі 152 новыя кніжкі.

Зараз дарослыя чытачы шукаюць сабе на доўгія асеннія вечары перш-наперш бытавых раманаў, а таксама выданняў на ваенныя і сенсацыйныя тэмы. Дарослыя чытачкі маюць іншы густ — яны ахвотна пазычаюць раманы на любоўныя тэмы, бяруць таксама гістарычныя, але ў іх мусіць быць сюжэт пра каханне. Моладзь зачытваецца фантастыкай.

Варта дадаць, што ў Нараўчанскай гміне працуюць два бібліятэчныя філіялы: у Старым Ляўкове (вядзе яго Аліна Барташук) і ў Семяноўцы (Галіна Панькоўская). **(яц)**

# Іх зачаравала пушча

Бажэна і Ян Валенцікі — вядомае зараз у Польшчы сужонства кінематаграфістаў — у апошнія гады сталі амаль пастаяннымі жыхарамі Белавежы. Прычынай гэтаму паслужыў тэлесерыял „Пульс першабытнай пушчы”, які яны рэалізавалі ў 1993—95 гадах. Сам тэлесерыял тройчы паказваўся польскім тэлебачаннем, паявіўся таксама на відэакасетах у двух моўных версіях — польскай і англійскай. Відэакасеты гэтыя ў сезоне разыходзяцца амаль вокамгненна, што даказвае вялікую папулярнасць фільма. 2 красавіка г.г. аўтары „Пульса” атрымалі за тэлесерыял узнагароду імя прафесара Югона Штайнгаўса, прысвоеную ім Польскім фондам папулярызавання навукі.

Разам з тэлесерыялам ствараўся і альбом аб Белавежскай пушчы, які выйшаў у бягучым годзе пад аднайменным загалоўкам. І тэлесерыял, і альбом найлепшыя ў сваім родзе творы, якія знаёмяць нас з Белавежскай пушчай. Некаторыя гавораць, што белавежцы павінны паставіць Валенцікам помнік! Пакуль што Таварыства аховы Белавежскай пушчы прысвоіла ім ганаровае званне прыяцеля Белавежскай пушчы. Дарэчы, Б. і Я. Валенцікі з’яўляюцца членамі Таварыства.

Заканчэнне прац над „Пульсам першабытнай пушчы” не выцягнула надоўга спадарства Валенцікаў з Белавежы. Яны пасля кароткага перапынку прыступілі да працы над чарговым сваім фільмам. Паўгадзінная „Апошняя пушча” дэманстравалася на прыватных сеансах ужо ў пачатку г.г. У Польскім тэлебачанні (І праграма) фільм дэманстраваўся ўпершыню 8 жніўня, паўторна — 29 верасня.

Зараз Валенцікі заняты пры двух сваіх чарговых фільмах. Яны рэалізуюць дзве тэмы для 8-гадзіннага тэлесерыяла „Жывучая Еўропа”, які здымаюць англійцы ў супрацоўніцтве з найвыдатнейшымі рэжысёрамі прыродазнаўчых фільмаў з паасобных дзяржаў. Амаль палова рэалізаванага Валенцікамі фільма „Апошнія лясы” будзе прысвечана Белавежскай пушчы менавіта. Чарговы іх фільм „Воды” ўзнікне ў пленэрах Бебжы.

Неўзабаве мае паказацца яшчэ адна кніжка Валенцікаў — „Як мы зрабілі пульс”, у якой аўтары пазнаёмяць чытачоў з усімі сакрэтамі рэалізацыі славутага ўжо тэлесерыяла.

Сутыкаючыся ўпершыню са спадарствам Валенцікамі, а было гэта хіба крыху больш за дзесяць гадоў, калі яшчэ сп. Ян рэалізаваў свае першыя перадачы для тэлевізійнай праграмы „Звярынец”, я нават не падумаў, што вось гэтыя сціплыя, мілыя людзі стануць неўзабаве найвыдатнейшымі прапагандыстамі Белавежскай пушчы.

**Пётр Байко**

# Новы этап

4 кастрычніка г.г. у сядзібе Фонду „Цэпэлія” ў Варшаве адбыўся агульны справаздачна-выбарчы сход Таварыства супрацоўніцтва народаў Усходняй Еўропы „Прыбліжэнне”. Старшыня Таварыства прафесар Ежы Дамрош прадставіў вынікі трохгадовай дзейнасці кіраўніцтва арганізацыі. Звярнуў ён увагу, між іншым, на прапагандаванне ў польскіх сродках масавай інфармацыі пытанняў выканання, асабліва ў глыбінцы, грамадзянскіх правоў усходнеславянскіх меншасцей, якія спакон вякоў пражываюць на цяперашняй тэрыторыі Польшчы. На працягу апошніх трох гадоў гэтай тэме прысвечаны былі тры чарговыя семінары.

Пры мерытарычным удзеле Таварыства „Прыбліжэнне” выйшлі тры тамы выдання „Rocznik Wschodni” („Усходні штогоднік”), а чацвёрты том якраз рыхтуецца да друку.

Сход адобрыў прапанову далучэння Таварыства ў якасці члена-заснавальніка да ствараемай арганізацыі, якая будзе называцца Рух еўрапейскага супрацоўніцтва — Адрыятыка, Балтыка, Чорнае мора (RWE-ABC).

16 кастрычніка — пасля пасяджэння новаабранага Галоўнага праўлення Таварыства „Прыбліжэнне” — быў выбраны Прэзідыум, у якога склад увайшлі Мажэна Кэнцік (старшыня), Іаанна Курэлля (генеральны сакратар), а таксама намеснікі старшыні: Вера Фалькоўска (прадстаўнік украінскай меншасці), Мажэна Карчэўска, Бажэна Масціцка-Вэсалоўска і Гжэгаж Вітковскі. Скарбнікам стаў Адам Вішнеўскі, а пастаянным прадстаўніком (сувязным) Таварыства „Прыбліжэнне” ў Федэрацыі RWE-ABC — Міхал Жанчэўскі. Беларускую нацыянальную меншасць ва ўладах Таварыства прадстаўляе Алена Анішэўская.

У сувязі з адмовай шматгадовага старшыні Таварыства праф. Ежы Дамроша кандыдаваць у члены праўлення агульны сход прысвоіў яму званне ганаровага старшыні Таварыства супрацоўніцтва народаў Усходняй Еўропы „Прыбліжэнне”.

**Міхал Жанчэўскі**

# Восем залатых пар

26 кастрычніка г.г. у гайнаўскім ЗАГСе адбылося ўручэнне медалёў „За шматгадовае сужонства” васьмі парам. Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі бурмістр Гайнаўкі Ядвіга Рудзінска-Патэюк і войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч.

Медалямі, прысвоенымі прэзідэнтам РП, былі ўзнагароджаны: Уладзімір і Надзея Свентахоўскія, Мікалай і Кацярына Сахарчукі ды Мікалай і Валянціна Аўласюкі — усе яны з Гайнаўкі, а таксама Рыгор і Мар’я Верамюкі з Дубін, Васіль і Люба Сегені з Рэпіскаў; Мікалай і Вера Місеюкі, Міхал і Мар’я Кот з вёскі Махнатае ды Ян і Надзея Петручукі з Новага Беразова. **(яц)**

# Лепшыя настаўнікі

З нагоды Дня настаўніка былі ўзнагароджаны лепшыя педагогі. Залатыя крыжы заслугі былі прысвоены настаўніцам Ірэне Башун і Аліне Грыгарук з Пачатковай школы нумар 2 у Гайнаўцы, а Сярэбраны крыж — дырэктару ПШ н-р 6 Ірэне Кулачэўскай. Медалём Камісіі нацыянальнай адукацыі была ўзнагароджана настаўніца Валянціна Бірыцкая з ПШ н-р 6.

Узнагароды бурмістра Гайнаўкі першай ступені атрымалі дырэктаркі: Ірэна Кулачэўская (ПШ н-р 6), Галіна Юзючук (Прадшколле н-р 1 у Гайнаўцы) і Галіна Жэгуня (ПШ н-р 4); другой ступені — намеснікі дырэктараў школ: Ніна Бандарук (ПШ н-р 6) і Тэрэса Нехацяшчая (ПШ н-р 1) ды трэцяй ступені — Валянціна Дзмітрук (ПШ н-р 3), Альжбета Хмялеўская (ПШ н-р 5) і Аліцыя Марыняк (ПШ н-р 2). **(яц)**

# Песні, пазбаўленыя душы

Засумаваў я, калі даведаўся, што вялікая фальклорная праца Міколы Гайдука перакладзена на літаратурную беларускую мову, як пра гэта напісаў Дарафей Фіёнік у артыкуле „Фальшаванне падляшскага фальклору” („Ніва” н-р 41). І падумаць, што можна было змарнаваць „Песні Беласточчыны”, такую каштоўную кнігу. Здзіўляюся, што такі — разумны як бацюшка — чалавек і літаратар, аўтар беларускай граматыкі Мікола Гайдук згадзіўся, каб нейкія дзівакі пераклалі на літаратурную мову нашу шматвяковую жамчужыну, якую ён сам натужліва многа гадоў збіраў. Проста не верыцца! Хто ж будзе карыстацца гэтым зборнікам, якога змест не пасуе да літаратурнай мовы, дзе няма гармоніі, каларыту, рытму і рыфмы? Я ж думаў, што ў кнізе будзе арыгінальны фальклор. А тут вось які фокус!

**Мікалай Панфілюк**

# Бяда ўсяму навучыць

**Аб сваёй працы расказвае 84-гадовы пенсіянер Пятро Жырчук з Пашкоўшчыны Арлянскай гміны — самавучка, майстар на ўсе рукі.**

— Падчас бежанства некалькі сем’яў засталіся на месцы і перажылі, а мы таўкліся чорт ведае дзе. Наша сям’я — бацька Іван, маці Уляна, тры сястры: сямігадовая Гандзя, шасцігадовая Тэкля і трохгадовая Тацяна ды я — двухгадовы малыш пасяліліся ў горадзе Сарапул на правым беразе Камы. Клімат там быў вельмі халодны. Цяжка было. Галадалі мы, елі лебяду. Вярнуліся ў спаленую вёску. У дзяцінстве ў школу я не хадзіў, толькі пасля апошняй вайны быў на курсах лікбезу, каб хаця распісацца навучыцца.

У войску служыў я 18 месяцаў у Млаве за Варшавай. Ажаніўся з аднасяльчанкай Ірынай, нарадзіліся нам два сыны. Трэба было неяк зарабляць на жыццё і я рашыўся адкрыць кузню, хаця кавальскай справе я ўвогуле не вучыўся. Сам дайшоў як рабіць плугі і іншыя сельскагаспадарчыя прылады. Потым стаў акоўваць вазы — спачатку на драўляных, затым на гумовых колах. Малодшага сына аддаў я ў слесарска-кавальскую школу ў Бельск і ад яго многаму навучыўся, напрыклад, зваркі. Пасля адкрыў я і зарэгістраваў большую кузню. Пераважна каваў я плугі і падкоўваў коней. Быў я тады два тыдні ў Беластоку на курсах, бо падкаваць каня — гэта складаная справа. Трэба ведаць анатомію капыта, каб не пакалечыць жывёлу. Больш як 20 гадоў падкоўваў я коней. Кавальства — цяжкая праца, але грош ад гэтага быў.

Займаўся я яшчэ цяслярствам; пасля вайны ставіў хаты. Ставіць зруб навучыўся я пры майстрах, якія будавалі ў вёсцы хату. Будучы яшчэ падлеткам, я пільна прыглядаўся іхнай працы, памагаў ім пры рабоце, а ў канцы стаў памочнікам майстра. Потым сам ставіў хаты. А калі пасля вайны пачалі ўзводзіць мураванкі, стаў я мулярам. Качаў я яшчэ валёнкі і рабіў многа-многа іншага. Адных ягнят, як у нас кажуць, не рабіў.



Чалавек жыў у бядзе, а бяда ўсяму навучыць. Многа гадоў прыйшлося цяжка працаваць, але ўсё неяк прайшло...

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Брама ў пушчу

Гайнаўка для турыстаў з’яўляецца месцам прыпынку на шляху ў Белавежу. Тут яны затрымоўваюцца, каб штосьці перакусіць, пераначаваць або крыху адпачыць, а таксама паглядзець тамашнюю прыгожую царкву Св. Тройцы або наведаць гайнаўскі цэнтр турыстычнай інфармацыі. Надлясніцтва Гайнаўка прапануе атракцыён — паездку выгончыкамі (закрытымі і адкрытымі) вузкакалейкі цераз маляўнічыя мясціны Белавежскай пушчы.

Гайнаўку наведваюць айчынныя і замежныя турысты. Гэты 25-тысячны горад у нейкай ступені выконвае ролю прыстанішча для многіх, хто падаецца на пагранічны пункт у Полаўцах, што ў Чаромхаўскай гміне. Між іншым таму вышэйзгаданы горад мае шанц стаць турыстычным асяродкам. (На далейшае развіццё прамысловасці разлічваць ён не можа.) Неабходна, аднак, разбудоўваць інфраструктуру.

Не найлепш маецца справа перш-наперш з начлегамі. Гасцініца ПТТК мае 120 месц і Дом настаўніка — 37. Таму гайнаўскія ўлады ахвотна дапамогуць усім тым, хто намерваецца будаваць гасцініцу, пансіён, а таксама рэстаранчык. Зараз з гэтай мэтай адзін з гайнаўскіх бізнесменаў купіў вялікі будынак былога ОГП і пачаў яго аднаўленне. Праводзіцца яно ў шпаркім тэмпе. Прыватная гасцініца атрымае высокі стандарт. **(яц)**

# Парнасік

## Мінута рэфлексіі

Шкада, што ў Бельску гор няма.
Хачу ўзлезці на Манблан
І ўзяць найбольшы мікрафон,
Каб лепш чуваць мяне было,
Агітаваць, прапагандаваць,
Пакуль яшчэ вочы гараць,
Пакуль яшчэ ногі стаяць
І магу счапіць пальцаў пяць.
Калі б сейсмографы Зямлі
Такія ветлівы былі,
І сэрц няроўныя ўдары
Усё ж такі рэестравалі,
І ў ААНе паказалі,
Там бы да вываду прыйшлі,
Што многіх трэ ўзяць пад ахову,
З кім лёс абходзіцца сурова.
Іх пасяліць у рэзерваты,
Даць вопратку ім з цёплай ваты,
Есці ім даць, насы ўціраць,
Па галавах іх доўга гладзіць
І доўга іх аседамляць
Як эфектыўна працаваць
І не давацца больш пакрыўдзіць.
Ахвяр і тых, хто за свабоду
Больш не пабачаць сонца ўсходу,
Вядома, цешыць няма чым.
Над імі ціха здымем шапкі,
Доўга над імі памаўчым,
А потым пойдзем без аглядкі
Будучыню шукаць жывым.

**Цётка Мальвіна**

## Бярозка імігрантка

Бярозка кволая, мая знаёмка,
як ты прыйшла сюды
ў край чужы далёкі?
Табе тут горача
між шэрых эўкаліптаў.
Расцеш самотна, адзінока.
Я пазнаў цябе далёка
паміж маўклівых эўкаліптаў
па тваім белым кажушку —
убранні нашай Беларусі.
Цяпер там лета,
а тут зіма.
Якая ж гэта зіма?
Ні марозу, ні снегу няма.
Горача тут і зімой.
Не трэба апранахі,
ні ботаў, ні шапкі, ні папахі.
Ты шукаеш цэлы дзень
у эўкаліптавым лесе цень.
Ценю тут няма,
ты шукаеш дарма.
Ты і я — мы тут чужынцы,
імігранты па няволі.
Жывем у гэтым гарачым краю,
бо на Радзіме няма волі.

**Сымон Шаўцоў**
**Аўстралія**

## Труд і мір

Трудзіліся,
Мірыліся.
Як штогод —
Было шмат прыгод.
Вясною пачатак
І быў свой парадак:
Веялі,
А пасля зерне сеялі.
Чакалі каб расло
І плён прынясло.
Мала адпачывалі,
А больш працавалі.
Селянін-мужык
Да працы прывык.
Але меў час і жонку кахаць
І разважаць
Пра розныя справы;
І не шукаў славы.
Слава яго — зямліца
І Богу шчыра маліцца;
Гэта самае аснаўное,
Пачэснае, дарагое.
Каб зямлёй даражыць
І спакойна жыць.
Каб снарады не рваліся
І людзі Бога баяліся.
Каб мір панаваў
І шчасце даваў
Па цэлай зямлі;
І свяціліся дні,
І каб ноч была спакойная,
І ў снах-былінах родная.
Час бяжыць
І гэтым трэба даражыць.
Была і ёсць пагода,
У краіне мір і свабода.
Дождж зямлю размачыў,
Расліны мір скора ажыў.
Зерне расло
І плён прынясло,
Ператварылася ў колас.
І чуваць родны голас:
Даражыце багатым плёнам,
І далоў розным праклёнам,
Любоў да сэрца прыміце
І так верна жывіце.

**Мікалай Панфілюк**

## Мая вера

Чаму так жывецца,
Хто мне растлумачыць,
Што адзін другому
Прывык нагу падстаўляці.
Калі не мае веры,
Каб на яго халера,
Чым на яго дзівіцца —
То лепей на звера.
Што ж я вінаваты,
Як такім радзіўся,
Быў тады маленькі,
Як у царкве хрысціўся.
Калі ўжо ахрысцілі,
Трэба усім знаці,
Што я сваю веру
Да канца буду шанаваці.
Захоўваць яе буду
Ды за яе змагацца,
Каб нашаю верай
Кожны мог радавацца.
Каб сваёю верай
У нас кожны ганарыўся,
Дзе ён не паедзе,
Веры не сараміўся.
За нашую веру
Многія пакуталі
І вечны адпачынак
Яны ў небе дасталі.
Бо нашую веру
Усім трэба шанаваці
І дзецям да сэрца
Яе прывіваці.

**Мікалай Лук'янюк**

# Вер — не вер

Астроне! Сніцца мне такі сон. На двары зіма. Я знаходжуся ў нейкай хаце. Быццам гэта хата мая, але я не ведаю, дзе яна знаходзіцца. Мясцовасць быццам вясковая, але хата вялікая, прасторная, збудаваная даволі па-сучаснаму. Быццам бы з нейкага амерыканскага фільма. Я адна ў гэтай хаце. Мне вельмі страшна. Раптам бачу, што дзверы ад галоўнага ўвахода адчыняюцца. З двара ўрываецца снег з ветрам, дзверы калышуцца. Гляджу, а вецер свішча і ў вокны, хаця яны шчыльна зачыненыя. Вецер урываецца праз шчыліны.

Я падыходжу да дзвярэй і з цяжкасцю зачыняю іх і замыкаюся. Адразу перастае свістаць вецер і ў вокны. Я ўвайшла ў пакой і ўжо спакойная, што нічога мне не пагражае. Раптам чую, што ізноў сігае вецер. Гляджу, а тут адчыніліся дзверы з задняга ўвахода. Яны адчыненыя насцеж, а ў хату ўжо паспела намесці снегу. Я падбягаю да гэтых дзвярэй, адгортваю снег і шчыльна зачыняю дзверы. На гэтым я прачнулася. Скажы, калі ласка, Астроне, што чакае мяне?

**Ганна**

Ганна! Твой сон супярэчлівы. Наогул сніць дзверы, калі яны адчыненыя, вельмі добра. Адчыненыя дзверы абазначаюць сардэчны прыём, поспех у справах. Калі сняцца зачыненыя дзверы, можаш чакаць непрыемнасцей. У цябе ж усё было якраз наадварот. Тым больш, што і снег, які абазначаў бы нейкі ўраджай, прыбытак ці добрае здароўе, у цябе быў зусім іншы.

Небяспека для цябе была якраз пры адчыненых дзвярах, у якія ўрываўся сіверны вецер са снегам. Тут снег, мяркую, прыносіў бы табе нейкія цяжкасці. Добра якраз, што табе ўдалося пазачыняць тыя дзверы. Але дробныя непрыемнасці могуць быць.

**Астрон**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 3. Віктар, беларускі паэт народжаны ў 1925 годзе ў Моры, 8. Жан, французскі палітык, забіты харвацкімі тэрарыстамі ў 1934 годзе ў Марселе разам з югаслаўскім каралём Аляксандрам I, 9. жавальная рызінка, 10. муза, апякунка гісторыі, 11. Франсуа, французскі кампазітар (1734—1829), 13. млосны стан перад ірвотай, 15. Родарык, англійскі геолаг, даследчык Урала (1792—1871), 16. від крыжаванкі, 20. опера Гендэля, 22. грузавы аўтамабіль з перакульваемым кузавам, 23. уводзіны, 27. паўднёвая вадзяная птушка з бледна-ружовым апярэннем, доўгай шыяй і доўгімі нагамі, 29. Аскар, англійскі пісьменнік (1854—1900), 30. значнае дасягненне ў галіне навукі, культуры, 31. квітанцыя, 32. невялікае возера, 33. частка агнястрэльнай зброі ў выглядзе трубы, 34. горад на Гродзеншчыне.

**Вертыкальна:** 1. Міхась, беларускі паэт і пісьменнік (1902—76), 2. жалезная дужка з вушкам для ўпору нагі конніка, 4. зімовае мужчынскае адзенне феадальнай знаці Вялікага княства Літоўскага і Кароны з воўчага футра, 5. Ініга, англійскі архітэктар, праектант палаца Уайтхол у цэнтры Лондана (1573—1652), 6. Іозеф, аўстрыйскі кампазітар (1732—1809), 7. горад на поўнач ад Сакаты (Японія), 12. Іаан, балгарскі кампазітар (1280—1366), 14. сталіца Буркіна-Фасо, 16. травяністая расліна з галінамі ад зямлі, 17. абласны горад на Украіне, 18. Ференц, венгерскі кампазітар (1811—86), 19. бязлесная роўная прастора ў зоне сухога клімату з травяністай расліннасцю, 21. афінскі палітычны і ваенны дзеяч (450—404 да н.э.), 24. горад на поўдзень ад Акіты, 25. напр. брама, дзверы, 26. гандлёвы саюз паўночнанямецкіх гарадоў у 14—17 ст.ст., 27. какецтва, заляцанне, 28. аддзяленне, адпадзенне. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 39 нумара**

**Гарызантальна:** Габэн, Гамільтан, папар, Ліфар, Біо, Гастэла, туарэгі, Спа, сіняк, азіят, Кусявіцкі, Чылер.

**Вертыкальна:** Тбілісі, гумар, Натал, гіпатонік, Неферціці, Прайс, рогат, бас, Ота, правіла, касач, акцёр.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# Гміна навокал горада

Бельская гміна з'яўляецца адной з большых у Беластоцкім ваяводстве, мае плошчу ў 420 квадратных кіламетраў і каля 9 тысяч жыхароў.

Гмінныя ўлады паклапаціліся перш за ўсё пра пабудову водаправодаў. Калі сем гадоў таму з усіх 53 вёсак ваду з крана мела ўсяго дзевяць, дык зараз маюць яе амаль усе. Не падключаны да водаправоднай сеткі толькі далёкія ад вёсак маленькія хутары. Кошт такой інвестыцыі занадта вялікі.

Сёлета падключылі да бельскай гарадской ачышчальні сцёкаў Відава. Зараз кантэйнернай ачышчальняй карыстаюцца дзве іншыя вёскі.

Пачалі разбудову Пачатковай школы ў Ягуштове. Калі закончаць гэтую інвестыцыю, будуць закрыты малыя школкі ў ваколіцы.

**(яц)**


# Ніва

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1998 r. upływa 5 grudnia 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

**Фрашкі пра нашых**

## Прывідава

Не да Ады па параду,
Андрэю, трэба табе падавацца.
Ада адна табе не дасць рады,
Бо без дохтара — не разабрацца.

**Вандал Арлянскі**

## Думкі ў час мігрэні

* Паміраем ужо тады, калі штосьці перастае нас цікавіць у жыцці.

* Шмат чаго вакол сябе не прыкмячаем таму, што патрацілі ўражлівасць дзіцяці.

* Калі хочаш праверыць, ці хтосьці сапраўды верыць у Бога, скажы яму, што ты бачыў анёла. Калі не пастукае пальцам у галаву, значыць, верыць!

* Цудаў няма, ёсць толькі здарэнні, якіх, пакуль што, не патрапім растлумачыць.

* Дабро і зло, як два полюсы — не хопіць аднаго і другое прападзе.

**Пётр Байко**

## З „Дзённікаў" Максіма Танка

**7.VII.1972 год**

Чытаю П. Неруду. Вельмі ж нудна ён піша пра каханне. Куды цікавей у Ф. Саган: „Жыць самотнай, калі гэта неабходна, так, але самой спаць — ніколі". Або чаго варты такія нашы частушкі:

„Дзеўка рэчкаю ішла
Ды на кладцы села.
Няхай п... ваду п'е,
Бо кілбасу з'ела".

„Мая жонка Явуся
Кросны ткала на брусе.
Ой, на пуні кросны ткала,
Паміж ног чаўнок пускала".

„Что меняют моду вроде,
Ты, подружка, не тоскуй.
Остаюсь при старой моде:
Мини-юбка, макси — ...".

„Не вярціся, не круціся,
Каб не змогся я..."

*(„Полымя" н-р 3/1997)*

# Ніўка




*Малюнак М. СЕЎЛЮКА*

## Рабства

Сёння на ўроку гісторыі нам упершыню расказалі аб рабаўладальніцкім ладзе. А ў канцы заняткаў настаўніца заўважыла, што рабства адна з самых ганебных з'яў у гісторыі чалавецтва. На шчасце, яно ўжо амаль зжытае.

Я не вельмі ёй паверыла. Давайце паглядзім гэта на прыкладзе насельнікаў нашай кватэры. Тата гадзінамі ляжыць пад нашым заезджаным „Фіятам", які даўно ператварыўся ў нерухомую маёмасць.

— Я раб гэтай чортавай калымагі! — стогне тата позна ўвечары, калі вяртаецца перапэцканы з галавы да ног машынным маслам. Потым ён сядае вячэраць і засынае адразу ж за сталом. Яму, напэўна, сніцца, як ён прадае аўтамабіль... Гэта першы раб у нашай сям'і.

— Я рабыня, якую пракляў Бог, — але што зробіш... — з раніцы да вечара скардзіцца мама, разглядваючы сябе ў туалетным люстэрку.

Па сутнасці, праца яе сапраўды цяжкая, рабская. Па восем гадзін у дзень уціраць у скуру твару па дзевяць мазяў і крэмаў, каб любой цаной хаця б на год пятнаццаць зменшыць свой узрост. А калі маме трэба сцерці пыл з кніжных паліцаў або зняць павуціну са столі, то яна, няшчасная, кладзецца і стогне, зноў на ўсе лады праклінаючы рабскую сваю долю.

Але, па-мойму, сапраўдная рабыня ў доме — гэта мая сястра. Яна ходзіць на ўрокі малявання, італьянскай і балгарскай моў, матэматыкі і хіміі. Сястра заканчвае школу, і бацькі мараць запхнуць яе ў інстытут.

А яна хоча танцаваць з суседскім хлопцам Недзялкам.

Нядаўна я выпадкова ўбачыла адно пісьмо, атрыманае сястрой. Яно канчалася словамі: „Кахаю цябе, твой раб Недзялка".

Калі гэты Недзялка ажэніцца з маёй сястрою, то ў нашым доме стане на аднаго раба больш...

**Пётр Сафранієў**

*З балгарскай пераклаў*
*Валерый Бабей*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Мільянер свайму сыну:

— Я не хачу табе абмяжоўваць выбару жонкі. Скажу адно табе толькі, што мусіць яна быць такой прыгожаю, каб варта было жаніцца з ёю, калі б нават не мела яна ні граша, і адначасна мусіць яна быць такой багатаю, каб варта было жаніцца з ёю, калі б нават была безнадзейна брыдкай.

* * *

На з'ездзе лекараў дэрматолаг выясняе прычыну лысення:

— Калі пацыент лысее ад лоба — гэта ад думання, калі ад цемені — гэта ад сексу, а калі адначасна ад лоба і ад цемені — гэта ад думання аб сексе.

* * *

У судзе:

— Чаму вы, абвінавачаны, такі няўдзячны?! Гэтая добрая жанчына дала вам булачку, а вы выбілі ёй шыбу каменем.

— Гэта не быў камень, толькі тая булачка.

* * *

На пляжы:

— Шаноўная спадарыня, — гаворыць маладой дзяўчыне ратаўнік, выходзячы з-за кустоў, — тут нельга купацца!

— А не маглі вы гэтага сказаць раней, калі я распраналася?!

— Распранацца можна.

* * *

У купэ вагона ён пазяхае. Яна:

— Дзякую вам, што вы мяне не з'елі!

— Малпаў не ем.

— Дзіўна гэта: а я ж думала, што свіння ўсё есць.

* * *

У бані ўвайшоў Гарбачоў. Прысутныя там мужчыны хутка закрылі сарамлівыя месцы.

— Што робіце? — здзівіўся Міхаіл Сяргеевіч, — тут жа ўсе мужчыны...

— А адкуль можам мець упэўненасць, што вы без Раісы Максімаўны?

* * *

Брэжнеў вяртаецца з таго свету і завітае да Гарбачова:

— Ну, Міхаіл Сяргеевіч, пара мяне ўзнагародзіць.

— Вы ж, дарагі Леанід Ільіч, ужо памерлі.

— Гэта нічога; прысвойце мне ўзнагароду пасмяротна.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Мне 15 гадоў, я вучуся ў ліцэі. Хлопцаў у нас не бракуе. І да мяне прыстаўляецца іх многа. Але, падумай, хто мне спадабаўся найбольш. Мой дваюрадны дзядзька! Думаеш, ён такі стары? Не, што ты! Але ўжо яму каля трыццаці.

Прыехаў да нас з іншага горада. Гэта дваюрадны брат маёй мамы. Ён маму вельмі любіць і штогод прыязджае да нас летам на адпачынак. Я яго запамятала з гэтай прычыны ад малых гадоў. Але сёлета нешта ў маім сэрцы кранулася. А ён прыехаў з жонкай. Ён і раней патрапіў прыехаць да нас з нейкай дзяўчынай. Мама яму на гэта дазваляла. У нас вялікі дом, недалёка рэчка, лес, дык мама лічыла, што могуць адпачыць у нас, неабавязкова ехаць на мора ці заграніцу.

Гэты мой дваюрадны дзядзька — вельмі вясёлы чалавек. Калі ён прыязджае, у нас заўсёды шмат шуму, смеху, бегатні. Мама заўсёды склікае гасцей. Для маладых часта робіць патанцоўку. Бацька мой таксама не супраць гэтага. А мне дык і наогул гэта вельмі падабаецца, бо дзядзька заўсёды прыязджае летам, а ў мяне тады шмат вольнага часу. Бацькі мяне нікуды не пускаюць адну, а тым больш у нейкі лагер. І я цэлае лета сяджу дома. Вядома, з сяброўкамі, а часамі і з сябрамі я сустракаюся, але, сказаць праўду, не вельмі цягне мяне ў гэту вясковую кампанію.

Дзядзька — гэта хтосьці! Інжынер, высокі, статны, а манеры якія! Вось гэтымі манерамі, здаецца, ён мяне і ўзяў. Быў якраз танцавальны вечар з гасцінай. Елі ўсе ў адным пакоі, а ў другім пакоі танцавалі. Ты не глядзі, што ён прыехаў з жонкай. Абтанцоўваў усіх дзяўчат. А пасля ўзяў танцаваць і мяне. Божа, як цудоўна ён танцаваў! Прытуляў мяне далікатнымі рукамі, гладзіў па валасах, прытуляўся да маёй шчакі. Мне стала горача. Я заўважыла, што ў мяне затрэсліся рукі. Мы ад гэтага моманту танцавалі ўвесь час разам. Калі станцавалі апошні танец, ён пацалаваў мяне ў шчаку. У мяне заняло дыханне.

За сталом я не магла падняць вачэй. Між намі паявілася таямніца, якой я не магла выявіць нікому — ні маме, ні тате, а ўжо, не дай Божа, каб даведалася пра гэта дзядзькава жонка. Вочы мае былі накіраваны на яду, але я не магла праглынуць ні кавалка вяндліны, якую так люблю.

Назаўтра дзядзька з жонкай выехалі дахаты, а маё сэрца агарнуў сум. Думкамі я была разам з ім. Калі я ўяўляла сабе ўсё тое, што адбылося між намі, на душы рабілася цёпла-цёпла. Я думаю, што гэткім чынам я закахалася. Я нават дзівілася сама сабе, як гэта магло здарыцца. Столькі ж хлопцаў было ў нашым ліцэі, у які я даязджала. З адной нашай вёскі — некалькі асоб. Не магла ўтрымаць сваіх пачуццяў пры сабе і расказала пра ўсё сяброўцы. Яна ўсплеснула рукамі: звар'яцела, кажа.

А нядаўна і мама мая ўзяла мяне на дыванік і спыталася, што са мною ў апошні час дзеецца. А што я ёй магла сказаць? Што закахалася ў яе брата?! Я маўчала, быццам вады ў рот набраўшы. Бацькі вельмі непакояцца, ці не захварэла я. А я адно толькі ўспамінаю, ды чакаю лета. Як ты думаеш, Сэрцайка, ці варта чакаць?

**Галя**

Даражэнькая Галя! Чакаць заўсёды варта. Усё залежыць ад таго, каго ты чакаеш і навошта. Жанаты дзядзька не прадвяшчае табе вялікіх перспектыў. Калі нават ізноў паявіўся б і быў такі дасканалы, як ты апісала, дык мучылася б ты без сэнсу наступны год.

Дзяўчаткі ў тваім узросце патрапяць закахацца без разбору і не толькі ў дзядзьку, а таксама ў свайго настаўніка, у лекара, які іх лечыць, у суседа, які схадзіў з табой у грыбы. На пацяшэнне табе скажу, што такое каханне як хутка і неспадзявана прыходзіць, так хутка і адыходзіць. Праз нейкі час ты будзеш смяяцца разам са сваёй даверанай сяброўкай з усяго таго, што перажывалася ва ўзросце пятнаццаці гадоў. Зычу поспеху!

**Сэрцайка**